№ 29 (866) 6 жніўня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Яны вяртаюцца

Карына Адзесенка, брэнд Honar, і Ілля Аксёнаў, брэнд LSTR-адзенне, вырабнікі вышыванак — інтэрв'ю. **Старонка 4.**

## Мусіенка: Спыніць канфлікт ва Украіне — жыццёвая неабходнасць для Беларусі

Кіраўнік ECOOM расказаў «НН» пра перамовы па ўкраінскім пытанні ў Мінску. **Старонка 3.**

## Беларус, які пераплыў Гібралтар: «Пра касатак мяне не папярэдзілі»

Дзмітрый Ягораў стаў першым беларусам, які пераплыў праліў, што раздзяляе Еўропу і Афрыку. **Старонка 6.**



**Каментар рэдактара**

## Беларусь збірае рэкордны ў гісторыі ўраджай збожжа. Украіна таксама

Хоць і вайна, Украіны збірае рэкордны ўраджай пшаніцы, пры ўраджайнасці пад 40 цэнтнераў з гектара.

Такі ж рэкордны ўраджай і ў Беларусі. Прычым і па намалоце, і па ўраджайнасці: таксама амаль 40 цэнтнераў збожжа з гектара, а на гаспадарлівай Гродзеншчыне — усе 50!

Год быў ідэальны для збожжавых. Халодная вясна, дажджысты чэрвень. А на жніво — ідэальная спёка. Вось і вырас выдатны хлеб.

«Сёлета ў нас літаральна шалёныя тэмпы збору ўраджаю, — расказаў дырэктар Украінскага гідраметцэнтра Мікалай Кульбіда. — Гэтаму спрыяюць умовы надвор'я».

Кульбіда адзначыў, што ва Украіне вельмі высокі ўраджай самай каштоўнай, азімай пшаніцы. Ён, ужо ясна, будзе найвышэйшым за ўсю гісторыю Украіны, савецкі перыяд і перыяд да гэтага. Хоць і вайна, паўтаруся!

Прыемна чуць, што Беларусь дапаможа Украіне пастаўкамі дызпаліва, каб ураджай не прапаў. Пра гэта стала вядома па выніках размовы Аляксандра Лукашэнкі і Пятра Парашэнкі, што адбылася ў панядзелак. Не за так паставяць, па рынкавай цане. І ўсё адно неацэнна: уласнай вытворчасці ўкраінцам замала, а Масква перакрыла краны. А хлеб сабраць жа трэба людзям. Грэх было б згнаіць такі шчодры дар зямлі.

Беларусы ганарацца сваім рэкордным ураджаем. Думаю, і ўкраінцы ганарацца.

У нашым характары — ганарыцца вынікамі сваёй працы, цяжкай працы, а не тым, колькі земляў мы заваявалі.

# Прахадныя балы ўступнай кампаніі-2014

Прыёмная кампанія афіцыйна скончылася 2 жніўня. Які ўзровень абітурыентаў, што сёлета паступілі на бюджэтныя месцы, і наколькі ён змяніўся ў параўнанні з мінулым годам?

Сюрпрызаў не адбылося. Наймацнейшых абітурыентаў па-ранейшаму забіраюць мінскія ВНУ. Сярод іх наперадзе — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. 6 з 10 самых прэстыжных спецыяльнасцяў належаць менавіта БДУ. Як і летась, найвышэйшыя прахадныя балы — у факультэта міжнародных адносін.

Сёлета пальму першынства ўзяла спецыяльнасць «Сусветная эканоміка» з неабходным для паступлення 371 балам. У мінулым годзе рэкордны прахадны бал у 388 пунктаў мела «Міжнароднае права», якому навучаюць на тым самым факультэце БДУ.

Іншыя ўніверсітэты з традыцыйна вялікімі прахаднымі баламі — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР), Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт (БДЭУ), Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт.

**Спецыяльнасці з найвышэйшымі прахаднымі баламі:**

| Месца | бал | Спецыяльнасць | Факультэт | Універсітэт | Прахадны бал летась |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 371 | «Сусветная эканоміка» | Факультэт міжнародных адносін | БДУ | 372 |
| | 371 | «Бізнэс-адміністраванне» | Інстытут бізнэсу і менеджменту тэхналогій | БДУ | 363 |
| 3 | 370 | «Актуарная матэматыка» | Факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі | БДУ | 366 |
| 4 | 369 | «Міжнароднае права» | Факультэт міжнародных адносін | БДУ | 388 |
| 5 | 366 | «Кіраванне інфармацыйнымі рэсурсамі» | Інстытут бізнэсу і менеджменту тэхналогій | БДУ | 361 |
| | 366 | «Інфарматыка і тэхналогіі праграмавання» | Факультэт камп'ютарных сістэм і сетак | БДУІР | 375 |
| 7 | 364 | «Міжнародныя адносіны» | Факультэт міжнародных адносін | БДУ | 364 |
| 8 | 360 | Стаматалагічны факультэт | | БДМУ | 349г/224с* |
| 9 | 358 | Фармацэўтычны факультэт | | БДМУ | 346г/295с* |
| 10 | 357 | «Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій» | Факультэт камп'ютарных сістэм і сетак | БДУІР | 361 |
| 11 | 354 | «Лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных камунікацый» | Факультэт міжнародных бізнэс-камунікацый | БДЭУ | 356 |
| 12 | 353 | «Сучасныя замежныя мовы (пераклад)» | Перакладчыцкі факультэт | МДЛУ | 351 |
| | 353 | «Лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных камунікацый» | Факультэт міжкультурных камунікацый | МДЛУ | 354 |

**Прахадныя балы ў Акадэміі міліцыі выглядаюць наступным чынам:**

| Факультэт | Прахадны бал 2014 | | Прахадны бал 2013 | |
|---|---|---|---|---|
| | юнакі | дзяўчыны | юнакі | дзяўчыны |
| Факультэт міліцыі | | | | |
| «Аператыўна-вышуковая дзейнасць» | 161/159 | | 172 | |
| «Адміністратыўна-прававая дзейнасць» | 144/143 | 279/269 | 110 | |
| «Эканамічнае права» | 212 | 336 | 162 | |
| Следча-экспертны факультэт | | | | |
| «Правазнаўства» | 152/150 | | — | |
| «Судовая экспертыза» | 169 | 288 | 161 | 285г/256с |
| Крымінальна-выканаўчы факультэт | | | | |
| «Правазнаўства» | без конкурсу | 249 | 142/140г; 131с | |

*гарадскі і сельскі конкурсы, сёлета адмененыя

### Дадатковы набор

Асноўнай інтрыгай гэтага года стаў дадатковы набор (пра яго «НН» пісала ў мінулым нумары). Ці не дзіва: каб запоўніць бюджэтныя месцы, універсітэты пагадзіліся прымаць абітурыентаў з 3 са 100 балаў па кожным тэсце. Відаць, перспектыва падалася заманлівай, і на дадатковы набор актыўна панеслі дакументы. Таму на некаторых спецыяльнасцях з недаборам абітурыентаў на дадатковым наборы ўтварыўся конкурс аж пад два чалавекі на месца, а прахадны бал павялічыўся. Цікава яшчэ і тое, што на некаторыя спецыяльнасці прахадны бал на платнае навучанне быў вышэйшым за прахадны бал на бюджэт.

### Сілавікі стрымана маўчаць

У ВНУ, што рыхтуюць сілавікоў, прахадны бал традыцыйна невысокі. Вядома, абітурыентам гэтых навучальных устаноў не дастаткова трох сертыфікатаў ЦТ: кандыдаты мусяць прайсці адбор паводле здароўя і фізічнай формы. Аднак гэта не адмяняе таго факта, што будучых афіцэраў набіраюць з ліку тых, хто набраў на ўступных іспытах па 30—40 балаў за прадмет.

На жаль, прахадныя балы за 2014 год апублікавала толькі Акадэмія МУС. Камандна-інжынерны інстытут, Вайсковая акадэмія і Інстытут памежнай службы РБ пакуль што стрымана маўчаць.

**Кірыла Хілько**

## Сціслa

**У лес нельга**

Ва ўсёй Беларусі ўведзена забарона на наведванне лясоў у сувязі са спёкай. Дазволена толькі праязджаць на машынах па дарогах, якія вядуць да населеных пунктаў, а таксама да ўладкаваных месцаў адпачынку. Гарачае надвор'е і адсутнасць ападкаў справакавалі ўзнікненне і распаўсюд лясных і тарфяных пажараў.

**Ватоўкі для «апалчэння»**

«Міністр абароны» самаабвешчанай Данецкай народнай рэспублікі Ігар Гіркін-Стралкоў замовіў некалькі тысяч ватовак для патрэб «апалчэння». Гэтая ініцыятыва можа сведчыць аб тым, што баявікі рыхтуюцца да зацяжных баявых дзеянняў.

**Памёр салдат**

Трагедыя здарылася ў 120-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгадзе ў Мінску. «У выніку цяжкай інфекцыйнай хваробы 2 жніўня памёр вайсковец», — паведаміла Мінабароны.

**У Расіі забараняюць амерыканскія віскі**

Пасля ўвядзення амерыканскіх санкцый супраць Расіі Расспажыўнагляд выявіў парушэнні пры абароце на тэрыторыі краіны амерыканскіх віскі. У іх нібыта знайшлі рэчывы, здольныя выклікаць анкалагічныя захворванні і праблемы з бясплоддзем у мужчын і жанчын.

**Кіеў забароніць уезд 500 расійскім артыстам з-за Крыма**

Улады Украіны рыхтуюцца ў найбліжэйшы час забараніць уезд у краіну 500 расійскім дзеячам культуры, якія падтрымалі сакавіцкую анексію Крыма. «Хай едуць выступаць у Крым перад чайкамі на пустых пляжах», — заявіў дарадца ўкраінскага міністра ўнутраных спраў Антон Герашчанка.

**ЯМ**

**Апытанні на nn.by**

**Ці даспадобы Вам, што лета такое спякотнае?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 338 | 45% |
| Не | 349 | 46% |
| Я мерзну! | 70 | 9% |

Прагаласавала 757 чалавек.

**Самае чытанае на nn.by за 30 ліпеня — 5 жніўня**

1 Мадэлька нумар адзін. Гісторыя Паліны Шубы, спадарожніцы Аляксандра Лукашэнкі

2 Мінчукі здзёрлі надпіс «Я русский» з кашулі прахожага ВІДЭА

3 Крыніца ў Крамлі: Будзе вайна ў Еўропе

4 Расійскі «сам сабе рэжысёр» фатаграфуецца на фоне забітых дэсантнікаў

5 Анамальная спёка: у Мінску пабіты рэкорд 78-гадовай даўніны ФОТА

6 Пакуль злачынец гвалтаваў дзяўчыну, яго сябар фатаграфаваў працэс на тэлефон

7 Цела зніклай Юліі Саламацінай знайшлі ў лесе

8 Украінцы захапілі камандзіра тэрарыстаў

9 Украінцы з боем перарэзалі дарогу Данецк—Горлаўка

10 Хартыя'97: Маладога чалавека жорстка збілі ў электрычцы за майку з «Пагоняй» ФОТА

Кіраўнік **лукашэнкаўскага сацыялагічнага цэнтра** ECOOM Сяргей Мусіенка адказаў на пытанні «Нашай Нівы» адносна пазіцыі Беларусі па ўкраінскім пытанні і перамоваў, што праходзяць у Мінску.

# Мусіенка: Спыніць канфлікт ва Украіне — жыццёвая неабходнасць для Беларусі

**«Наша Ніва»: Беларусі атрымаецца надалей заставацца нейтральнай у расійска-ўкраінскім канфлікце?**

**Сяргей Мусіенка:** Мастацтва дыпламатыі. Мастацтва знаходжання балансу — гэта заўсёды цяжка. Але ёсць такія краіны — Швейцарыя, Швецыя. Мы вытрымалі даволі працяглы час гэты баланс.

Для мяне характэрным было тое, што спачатку расійскія каналы пачалі кпіць з гэтых перамоваў. А пасля было кароткае паведамленне пра размовы Абамы і Пуціна, дзе яны станоўча ацанілі перамовы ў Мінску і вырашылі гэты фармат працягваць. Адразу танальнасць расійскіх тэлеканалаў змянілася.

Гэтыя перамовы праходзілі больш пад эгідай АБСЕ. Тут не выступае ні беларускі бок, ні расійскі, ні ўкраінскі. Там абмяркоўваюць пытанні калідораў на месцы крушэння «Боінга», абмену закладнікаў. Нават калі аднаго чалавека абмяняюць — дзякуй Богу. Ідзе цяжкі дыялог.

**«НН»: А чаму Лукашэнка асабіста не бярэ ўдзел у перамовах?**



**Сяргей Мусіенка**

нарадзіўся ў 1964 ва Умані Чаркаскай вобласці (Украіна). З 2003 узначальвае аналітычны цэнтр ECOOM. Суаўтар кнігі «Куды ідзём? Беларусь, Расія, Украіна».



Самаходныя мінамётныя ўстаноўкі ў Гомелі. Украіна выступіла з заявай, што гэты эшалон мінамётаў прыйшоў у Беларусь з Расіі. Міністэрства абароны абвергла: «Гэта планавае перасоўванне тэхнікі ўнутры Беларусі». Многія беларусы баяцца, што краіна можа быць проці волі ўцягнута ў расійскую вайну ва Украіне.

**Хто ўдзельнічаў у мінскіх перамовах?**

Былы прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, пасол Расіі ва Украіне Міхаіл Зурабаў, прадстаўнікі АБСЕ, віцэ-прэм'ер «ДНР» Андрэй Пургін. Бакі дамовіліся аб абмене 20 палоннымі.

**СМ:** Яшчэ дваццаць гадоў таму ён бы ўзяў усё ў свае рукі. Дваццаць гадоў таму яго палітыка часта дыктавалася імгненнымі імпульсамі, а цяпер ён узважаны і асцярожны палітык. Ён ніколі не пойдзе на гэта рэзка, не разумеючы праўдзівых спружын, якія рухаюць гэтыя працэсы. І ўлазіць без гэтага разумення небяспечна.

**«НН»: Тое, што пляцоўкай абраная Беларусь — краіна, якая выступае за цэласнасць Украіны, — выпадкова ці не?**

**СМ:** Безумоўна, гэта нешта значыць. Дзе яшчэ Украіна магла б весці такія перамовы? Малдова са сваім Прыднястроўем? Не. Польшча, ад якой ідуць пагрозы ў бок Расіі? Нават Літва — не. Патрэбная краіна, якая трымаецца нейтральнай пазіцыі. Калі размова ідзе ў Брусэлі, то патрэбен перакладчык. А размаўляць праз перакладчыка на такія пікантныя тэмы, як абмен закладнікаў, няправільна.

**«НН»: Беларуская пазіцыя «абы не было вайны» дапамагае ў гэтых перамовах?**

**СМ:** Канечне, мы на сябе экстрапалюем гэтыя ўкраінскія падзеі. Цяжка знайсці беларуса, у якога няма сяброў, сваякоў, саслужбоўцаў ва Украіне, ці людзей, якія б там не адпачывалі. Калі мы глядзелі на канфлікт у Сірыі, то думалі, што не зусім іх разумеем. Але калі славяне разбураюць гарады, знішчаюць людзей, то мы думаем: «А чым мы іншыя?» Спыніць канфлікт ва Украіне — жыццёвая неабходнасць для Беларусі. Калі гэта ўспалыхне і куды правярнецца — вялікае пытанне. Але мала не здасца нікому.

**«НН»: Калі паміж Украінай і Расіяй пачнецца адкрытая вайна, што будзе рабіць Беларусь?**

**СМ:** Для таго мы і ладзім перамовы, каб не пачалася вайна.

**«НН»: Вам не здаецца, што Лукашэнка і большасць насельніцтва краіны займаюць розныя пазіцыі ў канфлікце?**

**СМ:** З чаго Вы гэта ўзялі?

**«НН»: З уласных назіранняў. Людзі падтрымліваюць Расію.**

**СМ:** Вы трапляеце ў пастку малой групы. Вам здаецца, што людзі, якія гавораць у тралейбусе ці дзе яшчэ, усе так настроены. Ды не факт! Магчыма, чалавек, калі выказваецца за Расію, хоча пачуць вашы контраргументы, вас правакуе. Той жа Радаслаў Сікорскі прызнае, што пазіцыя Беларусі правільная. І Літва.

Інфармацыйнае поле, створанае тэлеканаламі Расійскай Федэрацыі, канечне, дамінуе ў нас. Агульны тыраж расійскіх цэнтральных газет большы за тыраж беларускіх. І ствараецца ўражанне, што, спажываючы гэтую прадукцыю, людзі становяцца на бок Расіі. Але часта здараецца, што ад лішку гэтай інфармацыі людзі пачынаюць задумвацца і глядзяць скептычна на гэтыя расійскія СМІ.

**«НН»: Але вы лічыце праблемай засілле расійскай прадукцыяй інфармацыйнай прасторы Беларусі?**

**СМ:** Безумоўна, гэтае пытанне трэба вырашаць. Такі ціск, такая перавага. Я, дарэчы, прыхільнік таго, каб у нашых кабельных сетках былі ўкраінскія тэлеканалы. Людзі маглі супаставіць расійскае асвятленне, украінскае, беларускае.

**«НН»: Ёсць меркаванне, што пазіцыя Лукашэнкі па Украіне можа яму гукнуцца на наступных прэзідэнцкіх выбарах. І Расія паспрабуе расхістаць тут сітуацыю?**

**СМ:** Цалкам магчыма. А калі каму падабалася незалежная палітыка? Хоць амерыканцам, хоць англічанам, хоць рускім. Канечне, лепш паставіць праверанага стаўленіка, генерала ці палкоўніка з беларускім пашпартам у кішэні. Гэта зразумела, ручное кіраванне. Але мне здаецца, што ўсё менш у нас становіцца людзей, гатовых на гэта пайсці. А спроба можа быць, я не выключаю.

Але ёсць і адваротны момант. Расія можа зразумець, што наша пазіцыя больш канструктыўная. І тая самая мінская пляцоўка для перамоваў без згоды Расіі і ЗША не была б магчымай.

*Гутарыў Зміцер Панкавец*

---

**Кавалеры**

## Яўсееў атрымаў ордэн за разгоны мітынгаў?

Генерал-маёр, начальнік міліцыі Віцебскага аблвыканкама Ігар Яўсееў атрымаў ордэн «За службу Радзіме» III ступені. Гэта ўзнагарода ўручаецца «за асаблівыя заслугі ва ўмацаванні дзяржаўнай бяспекі».

Яўсееў працаваў у асабістай ахове Лукашэнкі яшчэ ў першыя гады прэзідэнцтва. Але імя гэтага чалавека ўсплыло, калі Яўсееў узначальваў міліцыю грамадскай бяспекі Мінгарвыканкама. Падчас Плошчы-2010 ён хадзіў на перамовы з кандыдатамі ў прэзідэнты. Усё гэта скончылася зачысткай, арыштамі, збіццём. Яўсееў трапіў у «чорны спіс» Еўрасаюза, а ад Лукашэнкі ён атрымаў ліст падзякі. Цяпер атрымаў новую ўзнагароду.



Ордэн Пашаны атрымаў рэдактар дзяржаўнага агенцтва БелТА Дзмітрый Жук. БелТА выступае рэтранслятарам дзяржаўнай прапаганды.

Камандзір самалёта «Белавія» Аляксандр Букрэеў атрымаў медаль «За адвагу». Менавіта падчас яго рэйса з Грузіі была спроба захопу самалёта. Аднак камандзір прыняў рашэнне не змяняць курс і прызямліў самалёт у Мінску.

*ЗП*

## Ніна Багінская спаліла савецкі сцяг на ганку КДБ

Вечарам 1 жніўня супрацоўнікі КДБ затрымалі актывістку Ніну Багінскую, якая публічна спаліла чырвоны сцяг з сярпом і молатам на ганку гэтай установы.

У запісцы, якую пакінула Ніна Багінская сваім сябрам, яна патлумачыла сваю акцыю тым, што пад гэтым сцягам адбываўся генацыд беларускага народа. Дзень быў выбраны не проста так. Спн.Багінская зазначыла, што 1 жніўня 1937 года ў дворыку КДБ палілі кніжкі беларускіх пісьменнікаў.

На размову з жанчынай запрасілі псіхіятара. «Той са мной пагаварыў, і пасля я чула, як ён сказаў ім: «Тут усё нармальна», — кажа спн.Ніна.

Тады яе адвезлі ў Цэнтральны РУУС, склалі пратакол і пакінулі сабе бутэлечку з газай, якой жанчына змачвала сцяг, каб лепш гарэў. Праўда, так і не паведамілі, ці будзе заведзеная крымінальная справа. Уначы Багінскую адпусцілі з пастарунка.

68-гадовая Ніна Багінская вядомая тым, што ўздымае бел-чырвона-белыя сцягі ў цэнтры горада, робіць з ім шпацыры. Па адукацыі яна геолаг, а на акцыі апазіцыі ходзіць ад 1988 года.

*ЗП*

**Сцісла**

**У Віцебску адключылі ўкраінскі тэлеканал «Інтэр+»**

Замест яго ў сетку вяшчання трапіў расійскі тэлеканал «Сарафан». Пакуль што ад «Інтэр+» адмовіўся толькі адзін аператар кабельнага ТБ ААТ «Гарант». Растлумачылі гэта «тэхнічнымі непаладкамі».

**Рахунак PayPal, праз які збіралі грошы на атрад «Пагоня», замарожаны**

«Я атрымала ліст ад прадстаўніка PayPal, у якім паведамляецца, што мой рахунак замарожаны. У тым ліку, на 180 дзён замарожаная ўся сума, якая знаходзіцца на ім. Гэта каля 1300 даляраў», — паведамляе Таццяна Елавая, якая займалася зборам сродкаў. «Пагоня» — атрад беларускіх добраахвотнікаў, якія маюць намер ваяваць на ўсходзе Украіны супраць сепаратыстаў.

**Беларусь прадала Украіне 52 МАЗы**

Пра гэта ў сваім Фэйсбуку паведаміў міністр унутраных справаў Украіны Арсен Авакаў: «Цягачы для артылерыі, платформы, грузавікі, кунг. Частка тэхнікі ўжо працуе ў зоне АТА. Сума кантракта — 43,17 мільёна грыўняў».

**Вячаслаў Дзіянаў хоча атрымаць расейскае грамадзянства**

Раней маладзевы актывіст выказваўся за тое, каб беларусам даць магчымасць атрымаць расійскае грамадзянства. Вячаслаў Дзіянаў — палітычны эмігрант. У 2008-м быў даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты Алеся Міхалевіча.

*ЗП*

# Школа вышывання

**Пасля гучнай палемікі аматараў вышыванак і іх працiўнікаў мы вырашылі пагутарыць з тымі, хто ўласна вырабляе вышыванкі.**

Гэтым летам «апошнім піскам» сталі вышыванкі, прычым адразу ад некалькіх вырабнікоў. Аздобленыя чырвонымі ромбікамі кашулі, як высветлілася, выклікалі пачуцце гонару ў адной часткі грамадства і ледзь не абурэнне ў іншай. Стылізаваная вопратка з нацыянальным арнаментам нечакана ператварылася ў той самы камень перапоны, які, на думку адной публічнай асобы, перагароджвае пэўнай частцы беларусаў шлях у Еўропу.

### «Мы хочам спалучыць сучаснасное адзенне з беларускімі традыцыямі»

*Карына Адзесенка, Honar*

«Мы робім сучаснае беларускае адзенне, і гэта не зусім вышыванкі ў класічным разуменні», —прызнаецца дзяўчына.

Летась яна разам з мужам стварыла брэнд пад назвай «Honar». Спачатку выпускалі вязаныя торбы з сімвалам кахання, падкрэслівае Карына, потым швэдары, а затым прыйшлі да кашуль, цішотак і саколак. Сярод іх — і вышыванкі.

«Мы хочам спалучыць сучаснае адзенне з беларускімі традыцыямі, — кажа Карына. — Сэнс не ў вышыванках. Сэнс у пачуцці гонару і годнасці ў беларусаў за сваё. Мы рады ўсім, хто займаецца развіццём беларускіх традыцый і культуры, у тым ліку і культуры адзення».

Пры гэтым з тэорыяй падзелу на «Беларусь вышываначную» і «Беларусь еўрапейскую» Карына не згодна.

«Хай гарадскія здымаюць сваю сялянскую вопратку і носяць адзенне «Honar», — смяецца яна.

Але ж да спрэчак і абурэнняў дзяўчына ставіцца спакойна. На яе думку, шум вакол вышыванак працуе на папулярызацыю беларускіх традыцый. Ды і сама яна пераапранацца не збіраецца.

«Мы імкнемся рабіць так, каб наш брэнд быў даступным і пры гэтым трымаў высокую планку якасці. Напрыклад, узор для нас вельмі важны. Мы не хочам, каб беларусы насілі адзенне з пахавальным арнаментам. Для мужчын мы падбіраем арнаменты, якія сімвалізуюць мужнасць, а для жанчын — прыгажосць, каханне, — кажа Карына. — І, безумоўна, мы і самі носім тое адзенне, якое робім».

### «Вышыванкі нас кансалідуюць і аб'ядноўваць, набліжаюць да Заходняй Еўропы»

*Франак Вячорка, радыё «Свабода», Арт-Сядзіба*

Па словах Францішка, традыцыйныя вышыванкі ў яго і кожнага з членаў сям'і былі заўсёды. А да вытворчасці маек з прынтамі ён прыйшоў вельмі проста: заўважыўшы, што ў людзей з'явілася вострае жаданне абазначаць сябе беларусамі. Сродкаў жа для гэтага ў нашай краіне не так шмат.



Вышымайкі ад радыё «Свабода» і Арт-Сядзібы. Франак Вячорка — крайні злева.




Карына Адзесенка ў вышыванцы ад HONAR-у.



Вышыванкі ад LSTR.

«Са сцягам не паходзіш, значкоў і налепак на вуліцах не ўбачыш. Вышыванка і нацыянальны арнамент лёгка прачытваецца і не выклікае рэпрэсіяў з боку ўлады, — кажа Вячорка. — А купіць традыцыйную вышыванку — дорага, не кожнаму даступна, ды і не заўжды зручна. Таму і з'явілася ідэя зрабіць майкі з шаўкаграфіяй. Мы, радыё «Свабода» і Арт-Сядзіба, хуценька зарганізаваліся і надрукавалі наклад, і вось ужо 300 маек разышліся на ўра, за тыдзень».

Па вялікім рахунку, майкі з прынтом і сапраўдныя вышыванкі — рэчы зусім розныя. Але Вячорка не бачыць у гэтым вялікай праблемы.

«Вядома, майка «Свабода Арт» не вышытая, гэта шаўкаграфія, прынт на тканіне. Сапраўдная вышытая кашуля каштуе мінімум 150 даляраў, а ў нас гэта стылізацыя вышыванкі. Але я заўважыў, што цяпер значэнне слова «вышыванка» пашырылася, вышыванкай называюць адзенне з нацыянальным арнаментам, нават магніты з арнаментам называюць вышыванкай. І няхай, —паведамляе Францішак. — Наогул, добра, што вышыванка перастала быць святочным адзеннем, а становіцца проста побытавым. І нічога дрэннага, што вышыванкай называюць майку з прынтом —гэта толькі пашырае значэнне слова, а разам з ім —і прастору беларушчыны».

Ніякай камерцыйнай задумкі не было, сцвярджае Вячорка, а першы наклад яго вышыванак быў выпушчаны напярэдадні 27 ліпеня з мэтай нагадаць беларусам, што яны менавіта беларусы, і даць магчымасць гэта абазначыць. Але Францішак зусім не супраць, што іншыя спрабуюць на гэтым зарабіць. Наадварот, упэўнены ён, беларушчына тады будзе моцная, калі людзі будуць гатовыя на яе выдаткоўваць уласныя грошы, калі беларусы будуць самі фінансаваць беларускае.

«Чым больш будзе такіх ініцыятываў, чым большая канкурэнцыя, тым лепш. Яшчэ лепш, каб нехта ўклаў сур'ёзныя грошы і вырабіў дзясяткі тысячаў такіх маек, каб іх сабекошт яшчэ зменшыўся», — кажа Вячорка.

Сёння вышыванка набыла новую моц, новую сімвалічную значнасць, лічыць Францішак. І сённяшнюю цікавасць да нацыянальнай вопраткі нельга параўноўваць нават з 90-мі, калі кашулямі з арнаментам былі заваленыя ГУМы і ЦУМы, а ў большыні яны асацыяваліся з народнымі ансамблямі песні і танца.

«Цяпер вышыванка і яе модныя сучасныя інтэрпрэтацыі паказваюць на еўрапейскасць беларусаў, адрозніваюць нас ад расейцаў, яны нас кансалідуюць і аб'ядноўваць, набліжаюць да Заходняй Еўропы, — падкрэслівае Вячорка. — Многія заходнія брэнды выкарыстоўваюць каларыт нацыянальнага адзення ў сваіх калекцыях. Таму мы тут не прапануем нічога новага, проста падхопліваем трэнд. І далей гэты трэнд будзе толькі ўзмацняцца».

### «Думаем запрасіць Бахарэвіча прарэкламаваць вышыванкі»

*Ілля Аксёнаў, LSTR-адзенне*

«Вышыванка, як мне падаецца, магла б стаць беларускім трэндам. Калі на вуліцы было б дастаткова людзей у вышыванках, гэта б стварала годную нацыянальную атмасферу», —кажа Ілля Аксёнаў — заснавальнік вядомага беларускага брэнда LSTR. Яго рэчы характарызуюцца гістарычна-патрыятычнымі матывамі і выходзяць маленькімі накладамі. Нярэдка ў суполцы брэнда можна пачуць стогны тых, хто не паспеў набыць новую худзі ці ўжо не першы месяц чакае чарговы выпуск цішотак.

«Ідэя з вышыванкамі ўзнікла даўно, аднак у сілу некаторых абставін рэалізоўвацца пачала толькі ў маі. Пакуль мы пашылі толькі пробную партыю, якая была распрададзеная за лічаныя гадзіны, прычым у нас лёг сайт, — расказвае Ілля. — У самы блізкі час плануем разрадзіцца ўжо даволі сур'ёзнай партыяй, якая шыецца. Будуць розныя варыянты арнаменту, зробім варыянт з доўгім рукавом, а таксама абавязкова жаночыя».

А звярнуцца да вышыванак Аксёнава натхнілі ўкраінцы, у якіх кашулі з нацыянальным арнаментам — рэч даўно ўжо звыклая.

Да выказванняў Бахарэвіча Аксёнаў ставіцца вельмі спакойна — кожны мае права на ўласнае меркаванне — і кажа, што правакацыя пісьменніку ўдалася вельмі добра. Дарэчы, LSTR нават планавалі запрасіць Бахарэвіча стаць мадэллю для вышыванак, каб трохі патроліць грамадскасць, але потым ад гэтай задумкі вырашылі ўсё ж адмовіцца.

«Наогул, мы займаемся трыкатажам і вулічным адзеннем, таму зрабіць вышыванкі для нас было нязвыкла. Аднак мэтай іх стварэння былі ніяк не грошы, — падкрэслівае Ілля. — Вядома, мне, як прадпрымальніку, прыемна, што брэнд расце і набывае папулярнасць. І грошы, безумоўна, граюць вялікую ролю, але не ў маім асабістым узбагачэнні, а ў развіцці LSTR».

**Улад Швядовіч**

# Як працуюць хлебаробы?

Аграрыі збіраюць рэкордны ўраджай.

Па дадзеных на 5 жніўня ў Беларусі намалацілі 7,3 мільёна тон збожжа. З кожнага гектара аграрыі атрымліваюць на 6 цэнтнераў больш, чым летась, калі быў неўраджай. У выніку краіна ідзе на рэкорд. З улікам кукурузы плануецца сабраць каля 10 мільёнаў тон.

«Наша Ніва» тым часам завітала да звычайных камбайнераў, якія працуюць на палях Акцябрскага раёна Гомельшчыны.

Валерый і Сяргей круцяць нешта ў камбайне, перадаюць адзін аднаму інструменты. Побач стаіць пажарная машына — яна заўсёды дзяжурыць на палях. «Хутка прыедзе зварка, — кажа Валерый. — Зламаліся сёння. Інача ўжо цяпер набралі б 500 тон». На гэтым камбайне ён працуе ўжо шосты год. Сяргей — ягоны памочнік, на такой тэхніцы ездзяць па двое. «Мы абодва перасяленцы з Хойнікаў, — расказвае Валерый. — Прыехалі ў Пратасы неўзабаве пасля Чарнобыля, я пасля арміі адразу пачаў працаваць у калгасе. Трактарыстам, механізатарам, а ў сезон — камбайнерам. Амаль заўсёды працуем з Сяргеем разам».


Праца напарнікаў ідзе ўвесь дзень.

Мужчыны нервуюцца: менш намалоціш — менш заробіш. Пасказваюць расцэнкі: за сабраную тону плацяць 11 500 — 14 500 рублёў, у залежнасці ад тэхнікі. У забаблачныя заробкі камбайнераў яны не вераць. «У мінулы сезон за ўборачную выходзіла недзе 4,5 мільёна за месяц, — кажа Валерый. — Сёлета ўраджай лепшы, дый расцэнкі паднялі. Таму спадзяемся на 8 мільёнаў. Заробак залежыць не толькі ад таго, наколькі якасна ты працуеш, але і ад ураджайнасці, і ад камбайна. Калі ўраджай добры, тры разы па гэтым полі праедзеш — і поўны бункер збожжа набярэш, а інакш можна ледзь не палову дня ездзіць. Тое ж і з тэхнікай. Тыя, каго на «Дажынках» узнагароджваюць, працуюць звычайна нямецкіх камбайнах. А мы ж на «Гомсельмашы». Нягледзячы на гэта, Валерый з Сяргеем таксама былі ў ліку найлепшых. «У 2009-м тысячу тон намалацілі, — узгадвае Валерый. — Далі падарункі, мне тэлевізар, памочніку — пыласос. Ну, і прэмію таксама».

Валерый.

Нарэшце прыязджае зварка, і хвілін праз 20 мы ўжо едзем па полі. Перад намі лянівa ўздымаюцца ў паветра буслы — яны заўсёды «суправаджаюць» камбайны, шукаючы на палях здабычу. У кабіне грыміць расійская папса, на шкле налепленыя карцінкі з дзяўчатамі мадэльнай знешнасці. Спякотна. Пыл і мякіна асядаюць на скуры і адзенні. «Вунь у суседнім камбайне кандыцыянер працуе, — гаворыць Валерый. — А мне ў гэтым сезоне заправіць не могуць, кажуць, грошай пакуль няма. Цяжкавата, калі пыл. І калі складаныя паломкі — сядзіш, злуешся, што нічога не робіш. А так што тут цяжкага? Трэба працаваць, усе ж у горад не ўцякуць. Зараз скончым жніво, перасядзем на трактары, будзем сеяць. Я летась усе азімыя тут сеяў. І самому даводзіцца збіраць».

Праца на полі пачынаецца даволі позна, у 10—11 гадзін: трэба дачакацца, пакуль сыдзе раса. Працуюць прыблізна да восьмай вечара. Збожжа з камбайнаў проста на полі забіраюць МАЗы. На поле ж два разы на дзень старым уазікам прывозяць і гарачую ежу. Раздатчыца з металічных чанаў накладае грэчку з каўбасой, разлівае гарбату. Ядуць проста стоячы, нехта прысядае на зямлю, нехта ставіць міску на капот уазіка. Раздаюць камбайнерам і бутэлькі з халоднай вадой. «Такая спёка, што, калі браць ежу з сабой, яна адразу псуецца. А тут нармальна кормяць за такія грошы: вылічваюць з заробку па 6000 за абед і па 1500 за вячэру — хіба я ў сталоўцы за столькі б паеў?» — кажа Валерый. Мужчыны, што сабраліся ля «стала», не надта маладыя — гадоў па 45—50. «Моладзь з'язджае ў гарады, дзеці прыязджаюць сюды толькі адпачыць на прыродзе, працаваць у калгасе ніхто не хоча. А мне падабаецца быць бліжэй да зямлі, я тут усё жыццё. У горад не хачу. Нават тыдзень там не вытрымліваю, вяртаюся дадому», — кажа Валерый. «Не ведаю, хто будзе працаваць у палях год праз дзесяць, калі нашае пакаленне сыдзе», — дадае Сяргей. У абодвух мужчын дзеці вучацца і працуюць у гарадах. «Ці хацеў бы я, каб дзеці працавалі на зямлі? Не ведаю. Яны ж не хочуць...» — разважае Валерый.

Працоўны дзень сканчаецца, калі сядае сонца. У гэты вечар Валерый пакідае камбайн не ў калгасным двары, а ў сябе каля дома: да яго вёскі 5 км, а да калгаса — ажно 20. Насустрач камбайну бяжыць маленькі ўнук Сяргея: ён з бацькамі прыехаў у вёску на адпачынак. Валерый катае хлопчыка па вёсцы, а потым ставіць камбайн у яблыневым садзе і ідзе на вячэру да напарніка.

Ганна Бадзяка

# Правілы ўвозу тавараў стануць больш жорсткімі

Апублікаваныя новыя «метадычныя рэкамендацыі».

Улада робіць абмежаванні на ўвоз тавараў з-за мяжы яшчэ больш строгімі.

Нагадаем, з 2009 года ў Беларусі, Расіі і Казахстане дзейнічаюць адзіныя нормы ўвозу тавараў для асабістага карыстання. Агульнае правіла простае: можна ўвозіць да 50 кг багажу агульным коштам не больш за 1500 еўра.

Аднак Дзяржаўны мытны камітэт Беларусі працягвае ўласную барацьбу са спажывецкім імпартам. Каб даць мытнікам дакладныя ўказанні, былі створаныя так званыя «Метадычныя рэкамендацыі па вызначэнні прызначэння і коштu тавараў, якія перасоўваюцца фізічнымі асобамі». 1 жніўня была апублікаваная іх новая рэдакцыя. Гэта па-ранейшаму не заканадаўчы акт, у судзе на яго спасылацца немагчыма.

Сярод новаўвядзенняў — абмежаванні на перасоўванне прадуктаў, алкаголю і некаторых іншых тавараў.

Напрыклад, раней можна было ўвозіць не больш за 3 літры алкаголю на чалавека. Цяпер такі аб'ём дазволены толькі для тых, хто выязджае не часцей за раз на тыдзень, інакш можна будзе прывезці толькі 1 літр. А калі едзеш на роварь ці ідзеш пешшу — толькі 0,5 л. Калі ж праходзіш мяжу другі раз за дзень, то ніякага алкаголю не прапусцяць зусім.

## Гуму на колы дазволяць везці толькі ўласніку аўтамабіля

Пагадненне Мытнага саюза дазваляла везці з сабой да 50 кг ежы. Цяпер схема будзе іншая. Едзеш раз на месяц — вязеш не больш за 10 кг, раз на тыдзень — 5 кг (прычым, калі маеш алкаголь, то ён таксама ўлічваецца ў агульную вагу). Чаўнакам, якія едуць двойчы на дзень, дазволена браць ежу толькі на час дарогі.

Апроч таго, цяпер за месяц нельга ўвозіць больш за тры найменні адзення, будматэрыялаў і аўтазапчастак.

Аднойчы за год дазволяць прывезці бытавую тэхніку, камп'ютары, сантэхніку і іншую тэхніку. Сюды ж запісалі і гуму на аўтамабільныя колы. Правозіць можна альбо зімовы, альбо летні камплект, прычым толькі ўласніку аўтамабіля па тэхпашпарце.

У сваіх «метадычных рэкамендацыях» мытнікі пакідаюць лазейкі для карупцыі. Начальнік мытні ці ягоны намеснік можа дазваляць адхіляцца ад прыдуманых нормаў і правозіць тэхніку часцей за раз на год.

ЯМ

# Дэпазіты: да 33% у рублях, да 5% — у валюце

Нацбанк імкнецца стабілізаваць фінансавую сітуацыю ў краіне. Стаўка рэфінансавання ўжо апусцілася да 20,5%, таму зарабіць на дэпазітах становіцца ўсё складаней. Якія прапановы могуць зрабіць банкі цяпер?

Наш патэнцыйны ўкладчык гатовы прынесці ў банк 10 мільёнаў рублёў (альбо $1000). Каб залішне не рызыкаваць — усё ж нацыянальная валюта абясцэньваецца ў Беларусі ледзь не штодня, — мы гатовыя пакласці грошы на невялікі тэрмін, напрыклад, на тры месяцы.

Найлепшую прапанову з фіксаванай стаўкай робіць «Хоўм Крэдыт Банк». Галандскі банк, якім валодаюць чэхі, прымае грошы пад 33% гадавых. За кошт капіталізацыі фактычная стаўка дасягае 33,9%. На свaіх 10 мільёнах за тры месяцы клієнт заробіць дадатковыя 848 тысяч рублёў.

Падобныя прапановы робяць «Альфа-Банк» (фактычная стаўка 32,9%), а таксама «Белгазпрамбанк» і «Тэхнабанк» (па 32%).

Стаўкі па валютных дэпазітах тым часам скаціліся да 5%. Пад такую стаўку прымае грошы «Белгазпрамбанк», аднак прапанова датычыцца інтэрнэт-укладаў. Сярод звычайных дэпазітаў найбольшы прыбытак дае «Парытэтбанк» — 4,8%.

ЯМ

## Сцісла

### Талончык — 4000 рублёў

Ад 9 жніўня вырастуць тарыфы на праезд у грамадскім транспарце. Талончык у Мінску цяпер будзе каштаваць 4 тысячы рублёў (было 3700), а ў рэгіёнах — 3500 рублёў (было 3200). Пры куплі талона ў кіроўцы праезд абыдзецца даражэй на 500 рублёў.

### Дзе зарабляюць найменш?

Амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі сярэдні заробак у маі 2014 года перайшоў за сімвалічную мяжу ў 4 мільёны рублёў. Паводле дадзеных Белстата, менш зараблялі толькі ў чатырох раёнах. Абсалютны аўтсайдар — Шаркаўшчынскі раён (3,86 мільёна). Следам ідуць Браслаўшчына (3,89 мільёна) і Мсціслаўскі раён (3,91 мільёна). Ушаччына стаяла на мяжы — 3 996 800 рублёў.

### Падаткі могуць вырасці

Паводле інфармацыі БелаПАН, ва ўрадзе разглядаецца магчымасць павелічэння падатку на дададзеную вартасць — з 20% да 22%.

### Чарговы інвестыцыйны форум пройдзе ў Лондане

Ён адбудзецца 14 лістапада 2014 года. Беларускую дэлегацыю ўзначаліць старшыня Банка развіцця Сяргей Румас. Папярэднія замежныя форумы праходзілі ў Лондане (2008) і ў Германіі (2010).

ЯМ

# Беларус, які пераплыў Гібралтар: «Уцякалі ад касатак»

13 ліпеня плывец **Дзмітрый Ягораў** стаў першым беларусам, які пераплыў Гібралтарскі праліў, што раздзяляе Еўропу і Афрыку.

Пры гэтым Дзмітрый заняў 10-ы радок па хуткасці пераадолення праліва за ўсю гісторыю: беларусу спатрэбілася 3 гадзіны 8 хвілін. Маршрут, па якім плыў Дзмітрый, мае працягласць 14,4 кіламетра. Аднак праз плыні яму давялося праплыць на 2 кіламетры больш — 16,3 км.

26-гадовы Дзмітрый нарадзіўся ў Оршы. Ён вучыўся на факультэце фізічнай культуры і спорту Віцебскага ўніверсітэта, потым атрымаў эканамічную адукацыю ў Віцебскім тэхналагічным.

Цяпер Дзмітрый Ягораў жыве ў Санкт-Пецярбургу і працуе трэнерам па плаванні і трыатлоне. «НН» паразмаўляла з Дзмітрыем і даведалася, як гэта — пераплыць з аднаго кантынента на другі.

«Да заваявання Гібралтара ў 2013 годзе я пераадолеў Басфор (6,5 км), праліў ў Стамбуле, які злучае Еўропу і Азію. Пасля гэтага і паўстала пытанне аб далейшай мэце. Было некалькі варыянтаў, і адным з самых прымальных падаўся менавіта Гібралтарскі праліў.

Мы з Сяргеем Алчабаевым з Екацярынбурга плылі без гідракасцюмаў, і для таго, каб не змерзнуць і пазбегнуць пацёртасцяў, мы выкарыстоўвалі барсуковы тлушч і вазелін. Яны добра расцякаліся па целе пад пякучым сонцам Іспаніі, аднак змыць іх можна было толькі з дапамогай сродкаў для мыцця посуду.



**Дзмітрый Ягораў (справа) і Сяргей Алчабаеў (злева) з сертыфікатамі аб пераадоленні Гібралтарскага праліва.**



На сустрэчы з арганізатарамі заплыву мы атрымалі падрабязныя інструкцыі, а таксама даведаліся, што ўсе сайты з прагнозамі надвор'я хлусяць, і мы паплывём у той дзень і ў той час, які нам прызначаць самі арганізатары.

Раптам мы даведаліся, што плысці трэба ўжо праз дзень, хоць па плане разлічвалі яшчэ на 4 дні трэніровак на хвалях. Пераканаць арганізатараў нам ніяк не ўдалося. Хоць за іх настойлівасць я хачу выказаць вялікую падзяку. Сайты з прагнозам надвор'я сапраўды нахлусілі, і адзіны прыдатны для заплыву дзень з 10, што мы правялі ў іспанскім Тарыфа, быў менавіта 13 ліпеня.

Лодкі было дзве. Адна з якіх задавала кірунак руху, а другая, бліжэйшая да нас, забяспечвала нас харчаваннем і дадатковай інфармацыяй на час заплыву. У ёй была і мая жонка і па сумяшчальніцтве мой трэнер Наталля.

Першае пагружэнне — вада аказалася да сутаргаў халоднай, такой жа халоднай, як тады, падчас «першай трэніроўкі»: 1,5 км уздоўж берага пры тэмпературы вады ў 15—16 градусаў (і гэта нам яшчэ пашанцавала, як суцяшалі арганізатары).

Мы падплылі да берага Еўразіі і па свістку пачалі рухацца ў бок Афрыкі. Паводле плана, праз 3 гадзіны і 20 хвілін мы ўжо мусілі быць на іншым кантыненце.

Плысці мне прыйшлося не са сваёй хуткасцю, бо стараўся не адставаць ад партнёра, таму пастаянна даводзілася ўкалваць (Сяргей Алчабаеў праплыў дыстанцыю на 3 хвіліны хутчэй — «НН»).

Я ўвесь час працаваў на мяжы сваіх магчымасцяў. Запланаванага кожныя 45 хвілін перакусу хацелася раней: бо падсілкванне хапала толькі на 35 хвілін, а потым 10 хвілін цярпення і думак пра ежу.

Часам казалі паскорыцца, бо набліжаўся карабель, ці каб хутчэй перасекчы чарговую халодную плынь, ці каб адарвацца ад касатак.

Я даведаўся пра касатак пазней, бо арганізатары замаўчалі гэты факт падчас заплыву, каб не навесці панікі.

Былі і прыемныя, але неспрыяльныя для выніку моманты. Калі, напрыклад, трапляў у цёплую плынь, было так прыемна, што не хацелася нават працягваць заплыў.

Пад канец рукі былі ўжо настолькі цяжкімі, што ледзь змог прыцягнуць працаваць у тым жа тэмпе.

І вось, нарэшце, акуратнае дапліццё да берага, дотык і свісток, які спыніў секундамер. З цяжкасцю ўдалося на карачках падняцца на бераг, устаць, выпрастацца і з радасцю ўскінуць рукі ўверх.

У галаве круцілася думка: «Я зрабіў гэта!»

У дадзены момант на сайце Асацыяцыі плыўцоў праз Гібралтар у графе пазначана, што Дзмітрый Ягораў з Расіі. Дзмітрый кажа, што арганізатары нешта пераблыталі і што ён ужо накіраваў ліст з просьбай замяніць Russia на Belarus.

**Кірыла Хілько**

**In memoriam**

# З Бялькевічам развіталіся апладысментамі і спевам

Выдатны беларускі футбаліст памёр **у 41 год.**

Яго пахавалі на Байковых могілках Кіева побач з пісьменнікам Паўлом Заграбельным і народным артыстам Украіны Багданам Ступкам. Тым самым Ступкам, які доўгія гады быў любімцам публікі, сыграў усіх значных гістарычных постацяў Украіны і карыстаўся ўкраінскай мовай нават у самыя змрочныя савецкія часы. Для ўкраінцаў Ступка значыць вельмі шмат, і абы-каго побач з артыстам не паклалі б.

Калі машына з труной рабіла сімвалічнае кола па стадыёне, фанаты зладзілі авацыі і праспявалі гімн кіеўскага «Дынама». Бялькевіч заўсёды выходзіў на поле пад воплескі і спевы трыбун, гэтак і сышоў назаўжды.



Для кіеўскага «Дынама» ён быў не проста футбалістам з замежжа, якія штогод з'яўляюцца ў камандзе пачкамі, а потым бясследна знікаюць. Бялькевіч быў сімвалам клуба, якому аддаў адзінаццаць гадоў кар'еры, тры апошнія з якіх выводзіў партнёраў на поле з капітанскай павязкай. Заслужыць такое цяжка нават мясцовым, а легіянерам удвая цяжэй. І пасля сканчэння кар'еры ён не пакінуў клуб, застаўся працаваць у яго структуры з моладзевымі камандамі.

Некалькі гадоў таму ён прыняў украінскае грамадзянства. Казаў, што для яго даўно абедзве краіны — Беларусь і Украіна — сталі роднымі.

Бялькевіча не стала ў ноч на 1 жніўня. Сябры кажуць, што ён проста глядзеў тэлевізар, калі адчуў сябе кепска. «Хуткую» выклікалі, але было ўжо занадта позна. «У яго абарваўся тромб», — паведамілі дактары.

У Мінску ў яго засталіся бацькі, у Кіеве — жонка Алеся і сын Уладзімір. Бялькевіч не надта любіў свецкія хронікі і на палі звыкся вылучацца не прычоскамі, а гульнёй. Але некалькі разоў ён усё ж стаў героем таблоідаў. Першы раз, калі ў 2004-м узяў сабе ў жонкі асобу надзвычай яркую — вакалістку гурту ВІА ГРА Ганну Седакову. Напэўна, самую сэксуальную спявачку постсавецкай прасторы таго часу. Валянціну тады было 31, нявесце — на 10 гадоў менш.

У Седаковай і Бялькевіча з'явілася дачка Аліна. Але шлюб гэта не ўратавала. Праз два гады гэтая «ячэйка грамадства» распалася. Пазней Ганна расказвала ў інтэрв'ю, што Валянцін вярнуўся ад яе да жанчыны, з якой жыў да гэтага. Яна была старэйшай за футбаліста. Валянцін перажываў праз тое, што падрабязнасці іх жыцця з Седаковай абсмокталіся ва ўсіх СМІ, з'явіліся абвінавачанні, якім кепскім мужам ён быў.

Другая жонка, Алеся, ніколі не з'яўлялася ў аб'ектывах фотакамер, жыццё з ёй было спакайнейшым.

Дарэчы, і сам Бялькевіч страшэнна не любіў публічнасці. За сваю доўгую кар'еру ён даў, можа, з паўтузіна інтэрв'ю. І заўсёды журналістам даводзілася выцягваць адказы ледзь не абцугамі. «А што гаварыць? Пра гульню? Дык вы самі ўсё бачылі. Пра асабістае я не буду. Дзеянні партнёраў абмяркоўваць таксама», — адказваў ён.

У кіеўскім «Дынама» Бялькевіч выконваў функцыі вольнага мастака. Кажуць, без яго наўрад ці атрымалася раскрыцца Андрэю Шаўчэнку. Бялькевіч спраўна падаваў снарады, а Шэва ўжо накіроўваў іх у цэль.


Вяселле Валянціна Бялькевіча і Ганны Седаковай.

Тое кіеўскае «Дынама» пакалення Бялькевіча было ўнікальнай камандай, якая прадэманстравала, што можна выйграваць вядучыя еўрапейскія каманды. Прычым, маючы ў складзе толькі мясцовых байцоў, разбаўленых беларусамі Бялькевічам і Хацкевічам. Іхняе «Дынама» выходзіла да паўфіналу Лігі чэмпіёнаў у 1999-м (мабыць, няхутка гэта паўторыць каманда з нашага рэгіёна). І мусіла выходзіць у фінал, але Валянцін не рэалізаваў чысты выхад сам-насам з брамнікам «Баварыі», ён назваў той промах самым значным у жыцці.

Бялькевіч ніколі не выдзяляўся фізічнай магутнасцю, быў шчуплым і не надта атлетычным. Асабліва, калі параўнаць яго з футбалістамі сучаснасці, з іх накачанымі прэсам і нагамі. Беларус браў інтэлектам, бачаннем поля.

Ва ўсіх сімвалічных рэйтынгах найлепшых беларускіх гульцоў Бялькевіч бясспрэчна займае месца ў тройцы. Побач з Аляксандрам Пракапенкам, які таксама памёр вельмі рана — у 35 гадоў. Бялькевіч толькі на шэсць гадоў перажыў яго.

**Зміцер Панкавец**

# Тамаду і яго маці падазраюць у забойстве зніклай дзяўчыны

18-гадовую Юлію **закапалі ў лесе**.

Юлію Саламаціну шукалі два тыдні. Як і бывае пры знікненні маладых, да справы была пільная ўвага. І калі адны бачылі ў гэтай гісторыі звычайную бытавуху — маўляў, загуляла дзяўчына, іншыя адразу загаварылі пра нядобрае.

18 ліпеня Юлія пайшла на спатканне. Яна дапазна працавала ў кавярні ў Мінску. І ў тую ноч ехала да хлопца пасля працы, таму і камеры ў метро зафіксавалі яе ў 00.31. Дзяўчына са Смалявіцкага раёна — з пасёлка Акцябрскі. У сталіцы працавала і паступала ва ўніверсітэт. Сябры кажуць пра яе толькі станоўчае. «Яна была пазітыўным чалавекам са сваімі інтарэсамі, добрай сяброўкай», — прыгадвае яе аднакласніца.

Па словах жа маці, дачка пазнаёмілася з маладым чалавекам зусім нядаўна праз інтэрнэт — у сацыяльных сетках. Жанчына хлопца не ведала. На наступны дзень яна чакала Юлію дома, каб разам пайсці на пляж. І калі раніцай дачка не адказала на тэлефанаванне, не падумала нічога кепскага: маўляў, яшчэ спіць. Але днём мабільнік быў ужо адключаны. Тады маці занепакоілася і напісала заяву пра знікненне.

Міліцыянты адразу ж паднялі перапіску дзяўчыны ў сацыяльных сетках. І калі знайшлі яе прыяцеля, скіраваліся да яго дадому. Праўда, там яго не было, а мабільнік быў адключаны — падаўся на ўцёкі. Разам з ім знікла і яго маці. Іх абаіх і абвясцілі ў вышук. «Падчас агляду кватэры чалавека, з якім пазнаёмілася Юлія, следствам былі атрыманыя доказы яго магчымай датычнасці да процiпраўнага пазбаўлення жыцця дзяўчыны і ўтойвання слядоў злачынства», — канстатавалі ў міліцыі, калі ўжо затрымалі тагосамага 25-гадовага Паўла. А вось цела знайшлі не адразу. Вядома, што яго адшукалі ў лесе. Пакуль следчыя не раскрываюць падрабязнасцяў. Але нават з тых скупых звестак вынікае, што з дзяўчынай учынілі нешта страшнае. «Знойдзеныя рэчавыя доказы, у тым ліку якія належаць падазраваным, а таксама атрыманыя следствам іншыя дадзеныя ўказваюць на выяўленне парэшткаў зніклай дзяўчыны. У межах расследавання прызначаны шэраг экспертыз, якія дазволяць канчаткова ідэнтыфікаваць прыналежнасць парэшткаў», — адзначылі ў Следчым камітэце. Значыцца, знявечылі маладое цела да непазнавальнасці.



Павел працаваў вядучым на святах — тамадой. І па натуры ён чалавек неспакойны. У свае 25 гадоў паспеў ажаніцца і развесціся. У сацыяльных сетках у яго некалькі старонак пад рознымі прозвішчамі. Як толькі стала вядома, што ён мае дачыненне да забойства, на яго адрас пачалі прыходзіць розныя паведамленні: «Самага суровага табе пакарання!», «Гары ў пекле!».

Як расказалі жыхары дома, дзе жылі затрыманыя, з кватэры знік вялікі дыван: мо ў ім і вывозілі труп. А цяпер, калі пачалі разбірацца, нехта нават узгадаў, што чуў крыкі дзяўчыны. Праўда, адразу не надаў гэтаму ўвагі.

48-гадовая маці і сын — у статусе абвінавачваных. Яны знаходзяцца пад вартай. Справу завялі па факце забойства. Але пакуль не агучылі дакладную кваліфікацыю. Бо па гэтым артыкуле Крымінальнага кодэкса прадугледжваецца рознае пакаранне. Ад 6 да 15 гадоў калоніі ў выпадку проста забойства да пажыццёвага зняволення і нават расстрэлу пры забойстве з асаблівай жорсткасцю, з гвалтаваннем ці групай асобаў.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Ілжэмінёра» метро падазраюць у гвалтаванні непаўналетняй

Бацьку-адзіночку будуць судзіць **па некалькіх справах**.

Мінская падземка не працавала тры гадзіны 26 лютага. Як пазней паведамілі праваахоўнікі, сталічная студэнтка падгледзела ў чужым мабільніку паведамленне: мужчына пісаў пра намер узарваць метро. Дзяўчына расказала пра гэта міліцыянту. Метро ў выніку закрылі, а выбухоўку не знайшлі. Затрымалі ж 35-гадовага ўраджэнца Казахстана.

Як паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў, тэкст той эсэмэскі быў наступны: «У мяне бомба, я ў метро, дзе ўзарваць, код актывацыі падкажы». Дзеянні падазраванага кваліфікаваныя як загадзя ілжывае паведамленне пра падрыхтоўку выбуху, што пацягнула нанясенне шкоды ў буйным памеры. Парушэнне працы грамадскага транспарту ацанілі больш як у 90 мільёнаў рублёў.

«Падчас расследавання атрыманыя дадзеныя пра іншыя злачынствы, здзейсненыя абвінавачаным: гвалтаванне відавочна непаўналетняй, здзяйсненне іншых дзеянняў сэксуальнага характару з асобай, якая не дасягнула 16-гадовага ўзросту, а таксама дэманстрацыя непаўналетняму відэафільмаў парнаграфічнага зместу, — адзначыў Герасімаў. — Па меркаванні экспертаў, абвінавачаны мае псіхічныя адхіленні ад нормы. Выяўлены факты яго злоўжывання алкаголем. Разам з тым, ён прызнаны здольным усведамляць фактычны характар і грамадскую небяспеку ўчыненых дзеянняў, а таксама ў поўнай меры разумець іх значэнне і кіраваць імі».

Па інфармацыі «Еўрарадыё», абвінавачаны па справе — Канстанцін са Смалявічаў. Ён працаваў у сталіцы на трактарным заводзе. З жонкай не жыў. А нядаўна забраў да сябе дзяцей: васьмігадовага Даніяра і шасцігадовую Аяну. Іх маці моцна выпівала, і яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. «НН» паспрабавала пагаварыць з роднымі і знаёмымі мужчыны, але ніхто не адгукнуўся.

На старонцы Канстанціна ў сацыяльных сетках шмат фотаздымкаў з дзецьмі. Сярод іх часта фігуруе і 16-гадовая дзяўчына. «Добрая сяброўка і нянька», — прадставіў яе сам мужчына. Але «нянька» размаўляць адмовілася. «Не, я вам нічога казаць не буду. Я вам адно, а вы напішаце зусім іншае», — адрэзала школьніца.

Мужчына знаходзіцца пад вартай. Накладзены арышт на яго маёмасць. Хутка яго пачнуць судзіць. Праўда, працэс могуць зрабіць закрытым, калі ў межах справы з «мініраваннем» будуць разглядаць і сэксуальныя злачынствы — таямніца прыватнага жыцця.

**Кастусь Матушыч**



# Замест вяселля — пахаванне

Страшная аварыя па дарозе ў Мінск.

Раніцай 2 жніўня на 450-м кіламетры расійскай аўтадарогі Санкт-Пецярбург — Невель кіроўца «Форда Транзіт» заснуў за рулём і з'ехаў у кювет, дзе ўрэзаўся ў дрэва. З 15 чалавек, што знаходзіліся ў машыне, трое (мужчына і дзве жанчыны 1988 г.н.) загінулі на месцы, сямёра шпіталізаваныя з траўмамі рознай ступені цяжкасці.

Высветлілася, што заказны аўтобус вёз кампанію маладых людзей з Санкт-Пецярбурга ў Мінск на вяселле. Усе — расейцы.

У мікрааўтобусе знаходзіліся, акрамя гасцей, і самі маладыя. У выніку ДТЗ загінуў жаніх, нявеста знаходзіцца ў цяжкім стане ў шпіталі.

**СМ**

## Вышук



**Называлася амерыканкай**

У міліцыю звярнулася некалькі чалавек з заявамі, што іх абрабавалі. Падазраецца 22-гадовая Ганна (на фота). Пры знаёмствах яна называлася Ханнай Джэферсан з Лос-Анджэлеса і Аішай. Мяркуецца, што крадзяжоў магло быць больш. Хто ведае, дзе знаходзіцца Ганна, альбо пацярпеў ад яе, звяртайцеся ў Цэнтральнае РУУС Мінска на: (017) 288-02-02, (029) 633-65-81.



**Прапалі мама і сын**

Шукаюць 30-гадовую Ганну Шкель і яе 6-гадовага сына Уладзіслава з Магілёва. З 15 ліпеня яны адсутнічаюць дома. Хто ведае, дзе знаходзіцца мама і сын, звяртайцеся ў Ленінскае РУУС Магілёва на (022) 29-58-84.

## Сцісла

**Адзін гвалтаваў, другі фатаграфаваў**

Затрымаць гвалтаўніка ў Гомелі дапамаглі здымкі з мабільніка. Калі міліцыянты па апісанні шукалі злачынцу, які наздзекаваўся з дзяўчыны ў парку, затрымалі гамельчука. Але выявілася, што ён толькі глядзеў за працэсам і фатаграфаваў усё на мабільнік. А гвалтаваў ягоны сябар, якога раней судзілі за забойства. На першым допыце ён адпіраўся, але калі паказалі фотаздымкі, віну прызнаў.

**Патанулі дэсантнікі**

2 жніўня, у прафесійнае свята, у Мінску патанулі два дэсантнікі. Адзін, 48-гадовы, адпачываў на Востраве слёз у кампаніі, калі вырашыў акунуцца ў Свіслачы. Нырнуў у ваду, стукнуўся галавой і страціў прытомнасць. Калі выцягнулі на бераг — уратаваць не змаглі. І ў гэты ж дзень на Цнянскім вадасховішчы саслужыўцы паспрачаліся, хто хутчэй пераплыве вадаём. 30-гадовы, які адстаў, патануў.

**Атруціліся метанам**

Здарэнне адбылося ў Сенніцы (Мінскі раён). Водаканалам праводзіліся работы па аглядзе водаправоднай сеткі, і пры ўскрыцці аднаго з калодзежаў слесар-рамонтнік праваліўся ў яго. Яшчэ трое работнікаў туды спусціліся, каб дапамагчы напарніку. Вылезці назад не здолелі — адчулі сябе кепска. Аказалася, мужчыны атруціліся метанам. Адзін з іх памёр.

**Муж зарэзаў жонку, жонка — мужа**

2 жніўня ў Слуцку здарыліся аднатыпныя трагедыі. Раніцай на падворку прыватнага дома міліцыянты знайшлі труп 41-гадовай гаспадыні. Яе зарэзалі. Па падазрэнні ў забойстве затрымалі мужа. А ўвечары ў кватэры аднаго з дамоў знайшлі забітым 28-гадовага мужчыну. Мяркуецца, што яго зарэзала жонка.

**КМ**

# Бялок кальмара звяжа камп'ютары з мозгам



Цяперашнія высокатэхналагічныя пратэзы падключаюцца да нервовай сістэмы пацыентаў пры дапамозе спецыялізаваных імплантаваных электродаў. Гэтыя электроды выступаюць у якасці моста паміж апаратам пратэза і нервовым тканкамі. Але забяспечыць якасны кантакт не заўсёды проста. Справа ў тым, што электроніка аперуе сігналамі, што перадаюцца пры дапамозе электрычнага току. Перадача сігналаў у жывых тканках жа нашмат складанейшая, бо ўтрымліване не толькі патокам адмоўна зараджаных электронаў, што забяспечвае тэхніка, але і перанос дадатных электрычных зарадаў іёнамі калію, натрыю, кальцыю.

Групе навукоўцаў з Каліфарнійскага ўніверсітэта ў Ірвіне ўдалося знайсці тое, што зможа стаць рашэннем праблемы. Аказваецца, што бялок пад назвай рэфлекцін (reflectin), які дазваляе кальмарам мяняць колер сваёй скуры, служыць яшчэ і выдатным праваднікам дадатнага электрычнага зараду. Гэты бялок можа паслужыць тым мостам, які звяжа інфармацыйным камунікацыйным каналам жывыя клеткі і электроніку пратэзаў, імплантатаў і камп'ютарных сістэм.

Біялагічная прырода бялку істотна зніжае верагоднасць адпрэчвання імплантата чалавекам, як іншароднага цела, і дае магчымасць уздзеяння на некаторыя функцыі імплантата без неабходнасці праведзення хірургічнага ўмяшання.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



КАСТУСЬ ГАРЗІЦКІ

**У Вішневе рэканструююць арган**

У Вішневе (Валожынскі раён) у касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі адбываецца рэканструкцыя старадаўняга аргана. Займаецца ёй спецыяліст з Вялікага тэатра оперы і балета Масквы Дмітрый Лотаў (на фота). Больш за 30 гадоў ён даглядае музычныя інструменты, у тым ліку арганы. Акрамя гэтага, ён з'яўляецца святаром лютэранскай супольнасці ў Маскве. Арган створаны ў 1907 годзе віленскім майстрам Фларыянам Астрамецкім. Пробашч Язэп Мільдзюк звяртаўся з просьбай аб дапамозе ў Міністэрства культуры, але там грошай не далі. Цяпер збор сродкаў ідзе сярод мясцовых жыхароў і ахвярадаўцаў.

**Эла Дзвінская**

# Амерыканцу, які падкладваў іголкі ў мяса, пагражае 70 гадоў турмы

Крымінальная справа распачата ў дачыненні да 68-гадовага жыхара штата Ілінойс Рональда Аверса, які паўстаў перад судом па сямі выпадках фальсіфікацыі мясных прадуктаў, кожны з якіх карэецца тэрмінам да 10 гадоў турэмнага зняволення і 250 тысячамі даляраў штрафу.

Злачынства раскрылася дзякуючы пільнаму пакупніку супермаркета N Save у прыгарадзе Сент-Луіса, які паведаміў, што ледзь было не праглынуў іголку, якая трапілася яму ў кавалку мяса.

Як заяўляе ФБР, афіцыйная скарга на дадзены супермаркет была напісаная 9 ліпеня. Аднак першыя выпадкі псавання прадуктаў былі заўважаныя яшчэ летась у маі, калі адзін з пакупнікоў заўважыў швейную іголку ў ялавічным фаршы. Праз чатыры месяцы работнік крамы знайшоў іголку, якая тырчала з пакета са свінымі адбіўнымі. Затым пакупнікі пачалі знаходзіць іголкі ва ўсіх мясных прадуктах — пачынаючы ад ялавічнага фаршу і заканчваючы катлетамі.

Ахова крамы ўбачыла пры дапамозе камеры назірання, як падазраваны падкладае іголкі ў мяса. Зразумеўшы, што адбываецца, супрацоўнікі неадкладна паведамілі ў ФБР.

У машыне падазраванага была знойдзена скрынка з іголкамі. На пытанне, навошта яму столькі іголак, ён адказаў: «Каб зашыць штаны».

Падчас допыту Аверс расказаў, навошта ён падкладаў у мясную прадукцыю швейныя іголкі: «Я рабіў гэта проста так. Гэта была дурасць. Я не хацеў нікому нашкодзіць».

**РІА «Новості»**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Непрыгожае прозвішча, альбо Ужо быў забіты Міхоэлс

Выпадкова натрапіў на чарговае шоу, з тых, якімі без пачуцця меры і густу атручвае гледачоў дзяржаўнае расійскае тэлебачанне. Тое, што з невядомай прычыны стрымала палец ад націскання наступнай кнопкі, называлася «Универсальный артист».

Уласна кажучы, прычына была — «Хава нагіла»...

«Ларыса, — пытаецца вядучая шоу, — адкуль гэта ў цябе? Адкуль такое пранікненне ў габрэйскую душу?» — «А ты не ведаеш?» — Доліна пакусвае губы, нервова кідае позіркі некуды ў нябачную столь. «Я дык ведаю, — вядучая загадкава ўсміхаецца, — але трэба, каб ведалі ўсе». — «Так, я габрэйка. Маё сапраўднае прозвішча Кудэльман...»

Зала ўзрываецца воплескамі...

«А Доліна скуль?» — «Гэта прозвішча маці. Дарэчы, таксама габрэйскае... Калі пачынала, мне параілі змяніць прозвішча...»

Зала ўзрываецца воплескамі. Да допыту далучаецца нехта з журы.

«А вось Кабзон не мяняў». — «Кабзон — гэта нешта звонкае, пасуе спеваку. А Кудэльман гучыць непрыгожа...»

Зала ўзрываецца воплескамі.

Некалькі доўгіх хвілін усё журы расказвае пра свае габрэйскія карані. Асабліва лютуе Надзея Бабкіна. З чаго, урэшце, усе даведваюцца, што паходжаннем яна нібыта з нейкага габрэйскага казацтва, а зараз знаходзіцца ў цесным сваяцтве з цёткамі... Забыўся на імёны, што назвала, нешта накшталт Сары і Цылі, жывуць у Данецку. Апошняе вымаўляецца з такім натуральным націскам, што мімаволі цёткі Сара і Цыля ўяўляюцца ратавальніцамі «русского мира». Вядома, на чале яўрэйскага казацтва...

Зала ўзрываецца воплескамі.

Але памяць прагне цішыні.

...Яна была вельмі цяжкой, тая цішыня, у якой прагучала адночы: «Да таго ж прозвішча не зусім прыгожае, немілагучнае...»

Гэта быў апошні аргумент, якім бацька і маці, хаваючы позіркі, дацiскалі мяне, каб я пагадзіўся змяніць татава прозвішча Пінхасік на матуліна.

Ішоў 1957 год, надыходзіў час атрымліваць пашпарт.

Ніхто з бацькоў, вядома, не тлумачыў мне, што краіну захлынае хваля антысемітызму, што пад пагрозай далейшая вучоба, кар'ера,

**«Я забараняю! — дрыжачым голасам вымаўляе тата. — Не, я прашу цябе, сынок...»**



няўцямны поспех у жыцці... Абое былі камуністамі, шчыра верылі ў інтэрнацыянал, у сусветнае братэрства працоўных. «За слова «жыд» да вайны ў турму саджалі!» — усклікнула маці, калі малым дзіцём я паскардзіўся ёй на пачутую ўпершыню абразу. І я доўга яшчэ ўяўляў сабе, як добра было да вайны...

Калізія, што ўтварылася напярэдадні атрымання пашпарту, тычылася 5-га пункту. То бок габрэем пісацца мне ці беларусам. «Ну што ў цябе габрэйскага?» — пыталася маці. Бацька моўчкі ківаў галавой. Што праўда, ягонае габрэйства ўяўлялася мне толькі праз бабулю Гіту і доўгія, паўшэптам, недзе ў кутку, незразумелыя іхнія размовы на ідышы.

Не, не толькі. Яшчэ праз матулін дакор, які раз-пораз прамаўляўся, калі яна была ў чымсьці бацькам незадаволена: «няміга!»

Не, не толькі ў дакор. Здаралася, і ў жарт...

Дакоры — дакорамі, жарты — жартамі, але вера ў інтэрнацыянал была непахісная. Мабыць, з таго інтэрнацыяналу і ўзгарэла паміж імі каханне. Бо ўявіць сабе, каб да трыумфу інтэрнацыяналу знайшлі адно аднаго вясковая беларуска і габрэй з жабрацкай мінскай Нямігі, проста немагчыма. Немагчымым, адпаведна, было б і мне з'явіцца на свет.

О, якое то было каханне!

Праз біблейскі сыход цяжарнай маці з Мінску ў чэрвені 41-га; праз доўгае неведанне, хто дзе і ці жывы; праз нараджэнне сына; праз шчаслівае — жывы! — вяртанне з вайны...

Патаемна ад бацькоў я чытаў схаваныя ў пісьмовым стале іх лісты з вайны і на вайну, амаль тры ста лістоў. І ўжо настаў дзіцячым розумам разумеў, што ратаваліся яны ад жахаў вайны толькі каханнем.

І маленькім Пінхасікам. А тут — на табе: «Няміга...»

Мабыць, з-за той «нямігі» мне было асабліва шкада бацьку.

З-за той габрэйскай Нямігі, дзе ён насамрэч нарадзіўся; з-за той Нямігі, дзе ягоны бацька, мой дзед Саламон, рабочы разніцы, памёр ад сухотаў, калі бацьку было два месяцы; з-за той Нямігі, дзе бабуля Гіта, працуючы прыбіральшчыцай, адна здолела выхаваць чацвярых дзяцей, а зараз ляжыць у прыцемку вільготнага сутарэння, у старэйшай дачкі, і слухае, як грае на скрыпачцы ўнук Мулік...

«Не, я застануся Пінхасікам! І буду пісацца габрэем!» — чамусьці з выклікам абвясціў я. Маці сядзіць, абхапіўшы рукамі галаву, нібыта стрымлівае на твары счарнелую хмару. «Давід, скажы яму...» — «Я забараняю! — дрыжачым голасам вымаўляе тата. — Не, я прашу цябе, сынок...» З жахам гляджу, як ягоныя вочы набрыньваюцца слязьмі...

Я не ведаю яшчэ, што ў 37-м расстраляны Лазар Пінхасік, старэйшы бацькавы брат.

Я не ведаю яшчэ, чаму колькі год таму з такой насцярогай шапталіся бацькі за сцяной, чулася толькі нешта пра касмапалітаў і Бірабіджан.

Я не ведаю яшчэ, што Міхоэлс быў забіты, а не выпадкова трапіў пад колы... Так, я нічога яшчэ не ведаю. Нічога з таго, пра што ведаюць яны. Але маўчаць...

Хаця ведаюць, што я ўжо пра ўсё ведаю. Але маўчаць...

Усё жыццё маўчаць пра тое. Да сыходу ў вечную цішыню.

# Паўночнае лета



Спёка вяла нас на поўнач. У Віцебскую вобласць — край Дзвіны, азёр і крывіцкай спадчыны, адкуль ёсць пайшла беларуская зямля.

Гэтая спадчына рэальна адчуваецца. Там, дзе жылі крывічы, там дагэтуль на Радаўніцу ядуць на магілах. Хочацца верыць, што гэтая розніца між рэгіёнамі Беларусі захаваецца. Хочацца верыць у існаванне спрадвечнага.

Ехалі мы з Мінска ў Віцебск праз возера Сялява. Спадзяваліся паплаваць там з дзецьмі, а можа быць, нават уброд перайсці на востраў, дзе гарадзішча Выспянская Гара. У спякотнае лета ўзровень вады там нізкі.

Выехалі пазнавата, а 16-й, пасля працоўнага дня, забіралі па дарозе Сяргея Гудзіліна ў Жодзіне. Пенсіянеры на «Жыгулях» нешта нам жэстыкулявалі. Мы не звярнулі ўвагі, думалі, мы проста павярнулі не з таго шэрагу. На святлафоры іншы мужчына пракрычаў нам: «Згубілі каўпак з кола!» Спыніліся, вярнуліся — каўпак ужо раструшчаны ляжыць.

Першая страта, а яны ў кожным падарожжы непазбежныя.

З Жодзіна выязджаем на маскоўскую магістраль. На вадасховішчы каля ЦЭЦ, на Плісе, гамарня. Дзеці плёхкаюцца, мужчыны гуляюць у футбол.

Беларусы радыя любой вадзе. Нават дзіўна, як у нацыі, дзе бяруць выток столькі рэк, так мала чыстых вадаёмаў. Усё зарослае, усё мулкае. Няўжо так заўжды было і «чыстыя воды крынічныя» існавалі толькі ў галовах паэтаў? Ці ўсё ж нешта не тое стала ў нашым спосабе гаспадарання ў ХХ стагоддзі? Прыкрасць ад гэтага для чалавека, які любіць прыгожае.



**У саміх Бешанкавічах людзей перавозіў паром. Але за часам незалежнасці тут і ў Верхнядзвінску замест парома паставілі пантонныя масты.**

### Траса

Ад шашы Берасце—Масква, з яе дынамікай, з яе рухам вечным, як заўжды весялееш. Жыццё не замёрла, свет не застыў на месцы. Хоць пакрыццё на адрэзку між Жодзінам і Барысавам не такое добрае, усё адно прыемна адчуваць сябе грамадзянінам нацыі з выдатнымі дарогамі.

Пры трасе прадаецца гатэль з корчмамі — просяць 750 тысяч еўра.

У людзей паспалітых іншы бізнэс — яблыкі прадаюць у вёдрах, чарніцы рэдкія ўжо, лісічкі — апошнія, бо спёка. Новы павеў — людзі масава выносяць і садовыя дурніцы, якія толькі нядаўна пачалі саджаць. Шызыя звонку, яны колеру расталага цукру ў сярэдзіне і сапраўды салодкія. «Вы пакаштуйце!» — угаворвае маладзіца. Просяць за іх 60 тысяч за літр, проці 70 тысяч за літр буякоў дзікіх. «Гэта ж няпроста — каб раслі, колькі торфу трэба прынесці пад куст», — апраўдваецца яна.

Дзеці пытаюцца, чаму гэтыя ягады называюць дурніцамі. Бо растуць яны на балацявінах, там, дзе і багун. Ад паху багуну галава пачынае балець. Пах дурманіць, калі збіраеш гэтыя ягады, таму і дурніцы.

### Дарога з пакрыццём

Да Сялявы два найлепшыя пад'езды: або праз Халопенічы, або праз Чарэю. І там, і там ёсць маляўнічыя руіны, але глядзець асабліва няма чаго. У Чарэі — карані французскага паэта-містыка беларускага паходжання Оскара Мілаша — de Lubicz-Milosz, як яго пісалі.

Каб навярстаць страчаны час, едзем да Клішына, размешчанага на беразе Сялявы, самай кароткай дарогай. У Лісічыне завяртаем направа. Вёска напаўмёртвая, дзве траціны хатаў стаяць з забітымі вокнамі. Мужыкі разбіраюць зруб. На канцы вёскі проста пад колы нераварэз машыне вылятае шалёнае ад весялосці мышастае жарабя, на радасць дзецям. Дарога на карце 2004 года пазначана тоўстым жоўтым, як «дарога з пакрыццём». Але па ўездзе ў лес наш «Сцэнік» сядае днішчам між глыбокімі каляінамі. Застаецца радавацца, што гэта здарылася не ў балоце далей у лесе — там без трактара не выбраліся б. Гудзілін адпраўляецца назад у вёску па рыдлёўку. Адкопваемся, на радасць авадням.

Час страчаны, мусім ехаць да Віцебска, каб паспець у прымальны час. Прыкра — дзецям была б прыгода трапіць на востраў на Сяляве. Даўнымдаўно Гудзілін там вучыўся ў «лагеры баевікоў» — гэта значыць, беларускіх маладафронтаўцаў, а мы, старэйшыя нашаніўцы, прыязджалі туды выступаць з лекцыяй, прывозілі новыя кнігі. Памятаю, як нас з кнігамі скаўт перавозіў на гумовым чоўне. Ішоў уброд і цягнуў лодку.

Што ж — наступным разам.

### Горад з пабеленымі бардзюрамі

Гіганцкія каміны Новалукомльскай ДРЭС цэнтруюць на сабе краявід. Выехалі да возера Лукомскага каля Мялешкавіч. Злева на берагавой лініі стаяць пантовыя дамы. Далей горад энергетыкаў Новалукомль — нібы з іншай рэальнасці. Доўгі прыазёрны бульвар, на ім шпацыруюць маладзікія стайкі дзяўчат, зграйкі хлапцоў і алканаўты ў пошуках заліўкі. Усё вылізана, але не робіць уражання багацця ці ўтульнасці. Пабеленыя бардзюры і таполі — прыкмета казармы, а не гаспадара.

У летапісны Лукомль карціць заехаць, але няма калі.

У Чашніках цікавы рэльеф, але нічога не спыняе — так, каб хацелася ўдарыць па тармазах.

Мілыя вёскі — кожная са сваім возерам.

Хоць Віцебшчына мае рэпутацыю самага праблемнага ў сельскагаспадарчым сэнсе рэгіёна, Чашніцкі раён Віцебскай вобласці робіць уражанне нават лепшае дагледжанасці за пакінутую чалавекам поўнач Крупскага раёна.

**Працяг на старонцы 10.**



**Няма цяпер вёскі на Віцебшчыне, дзе б не было пальмы, выраблена́й з зялёных пластыкавых бутэлек. Проста Афрыка! Але такой феерыі, як у гэтым садочку ў вёсцы Вялікая Вядрэнь у Чашніцкім раёне, мы нідзе не бачылі. Тут і чарапахі, і мяхі з далярамі і расійскімі рублямі.**

З гары ў Маскаўцах (Браслаўскі раён) адкрываецца краявід на азёры. Такая далеч ветравая... На фота: сталы для падарожнікаў.



# Паўночнае лета

Працяг са старонкі 9.

### Вялікая Вядрэнь

Не можам не спыніцца каля фантазійнага садка ў вёсцы Вялікая Вядрэнь. Чаго і каго там толькі няма!

Садоўніцтва — гэта таксама мастацтва, крохкае, бо існуе, пакуль сад штогод даглядаюць. Жывапіс бывае наіўным, і такі даў шэдэўры ад Мытніка Русо і Пірасмані да Алены Кіш, так і сад у стылі наіўнага мастацтва варты памяці.

Жывы гаспадар — стаіць і ягоны сад. Не стане яго — ці захавае гэта нехта? Вось ужо і Мосар занепадае, бо няма больш Булькі.

Пад Бешанкавічамі капаў апошнія гады жыцця археолаг Міхась Чарняўскі. Як знаходзіў ён стаянкі, селішчы старадаўніх людзей? — задаецца пытаннем Гудзілін. Чарняўскі расказваў: людзі ў той час сяліліся на берагах азёр. Большасць тагачасных азёр за апошнія тысячагоддзі ператварылася ў тарфянікі. Сакрэт у тым, каб правільна вызначыць, дзе ішла берагавая лінія.

Сюды, пад Бешанкавічы — гэта ён тлумачыў, што правільней было б ставіць націск на першы склад — мы прыязджалі яго здымаць на відэа. Быў папярэдні чэмпіянат свету па футболе, і Чарняўскі вечарамі засынаў пад прымач, на якім ішла трансляцыя.

У саміх Бешанкавічах раней працаваў паром. Але за часоў незалежнасці, тут і ў Верхнядзвінску, замест парома паставілі пантонны мост. Яго наводзяць і абслугоўваць вайскоўцы. Самая мірная служба. Салдаты днююць і начуюць у буданчыку каля ўзвозу. «Добры вечар!» — вітаемся з імі. «Добры!» — адказваюць яны.

З помнікаў у Бешанкавічах ёсць стары палац і тэрасны парк, дакладней, тое, што ад яго засталося.

### Віцебск: у гасцях у казкі

Поначы даязджаем да Віцебска, дзе нас запрасіла на начоўку сям'я Б. Хоць мы прыязджаем пад 12-ю, яны чакаюць нас, з немаўлятамі ўключна. На стале салата з памідораў з крэветкамі ў заправе з плаўленага сыру са свежым чабрацом. На гарачую страву — трус, запечаны з гароднінай. І пэпсі з украінскім каньяком у якасці кактэйлю.

Хоць гэта і стамляе гаспадароў, хоць моднікі могуць з гэтага кпіць, але як добра часам у падарожжах спыняцца ў сяброў. Так можна пагрузіцца ў рэальнае жыццё іншага горада, іншага асяродку. Так спазнаеш новых людзей — а гэта самы рэдкі, самы каштоўны від турызму. І асабліва важны для дзяцей — якія, нібы губкі, усмоктваюць усё найлепшае, з чым сутыкаюцца.



Барысавы камяні зачароўваюць дзяцей. Яны водзяць пальцамі па старадаўніх літарах, і нешта важнае счытваецца ў іх адкрытую ўсім вятрам душу.

### Сям'я Б.

Сям'я Б. — грамадскія лідары, з тых людзей, якім усё цікава і ўсё ўдаецца (бываюць такія лёгкія-лёгкія людзі, у якіх бачыш толькі ўдачы, а цана тых удач застаецца за кадрам). Нават сваю кватэру яны зрабілі непаўторнай: і па планіроўцы (кухня злучаная з гасцёўняй, аддзеленая ад яе толькі высокім барным сталом. А на процілеглай сцяне гасцёўні кніжныя паліцы, і між іх, пад тэлевізарам — вялікі электрычны камін).

Яны ганарацца сваім горадам, ягоным «цагляным стылем», адбудаванымі з нуля цэрквамі.

Летняя гаворка: пра бурныя парогі на Дзвіне каля Рубы, пра кар'еры — найлепшае месца для купання ў Віцебску.

Але таксама — пра магілёўскую рок-тусоўку, лідар якой трапіў у 2010 годзе на Плошчу і ўсвядоміў, што там сабраліся самыя сапраўдныя людзі.

Пытаюся, хто найбольш спадабаўся віцебчукам за апошні час з беларускіх выканаўцаў. Кажуць, «Акутэ» і Паліна Рэспубліка. Яны збіраюць тут да 800 чалавек.

Пра паэтаў — хто каму падабаецца. Гаворым пра Андруся Храпавіцкага. Б. мяркуе, што гэта Храпавіцкі напісаў «Зянон-хоп». Б. расказвае пра свайго бацьку-шафёра, які вярнуўся да гадоўлі трусоў. Каб унукі елі чыстае мяса.

Як шмат такіх па-добраму, без фальшу кансерватыўных сем'яў па Беларусі, хоць мо і не яны на слыху, на экранах.

Тую самую мяккую, брылёўскую светлыню і чысціню я адчуваў у гісторыкаў Ч. у Гродне (галаву сям'і там выгналі з работы пасля, гучная была справа).

Запомніцца нам і сустрэча ў Полацку з сям'ёй Р., але пра гэта — трохі пазней. Дзень першы сканчаецца.

### Альгерд не там стаіць

Дзяцей у Віцебску найбольш захапіў не арт-цэнтр Шагала — даволі бяздушны. Не конны помнік Альгерду — не на сваім месцы пастаўлены, ён прападае над прагінам Віцьбы, перад сляпаватым фасадам старой камяніцы, пад высокімі барочнымі цэрквамі.

Альгерда б пад аблвыканкамам паставіць ці пад Міністэрствам абароны. Ён жа не паэт быў і не святы — кіраўнік вертыкалі, абаронца айчыны, захопнік. А яго ў арт-квартал засунулі.

Дарэчы, стаіць ён, лічы, пры канцы вуліцы Суворава — які адваёўваў тое, што Альгерд у свой час заваяваў. І ніяк жа ты той вуліцы Суворава не перайменуеш, каб не было канфлікту. Хіба што трэ было б вярнуць ёй нейкую старую назву, тады б гэта мела гістарычнае абгрунтаванне. А перайменоўваць урэшце трэба: у Беларусі павінны быць беларускія героі.

### Нечаканае адкрыццё

Дзеці найбольш хацелі выпіць квасу разліўнога — аказаўся няўдалы, недабрадзілы (куплялі на вуліцы Суворава). А захапіў іх найбольш заапарк у цэнтры, размешчаны ў парку над Успенскім саборам.

Буслы шпацыруюць там на волі. Рухаюцца, нібы робаты. Пры назіранні здаля гэта не так заўважаецца. Козы глядзяць вочы ў вочы сваімі прастакутнымі зрэнкамі, ламы плююцца. Усе тут — побач, а не зверху. Дзеці хутка выявілі, што звяры, як адзін, — ад казуляў да макак — найбольш рады не капусце, якой і так маюць досыць, а звыклай свежай траве. Яванскія макакі не хапаюць проста з рук сваімі смешнымі маленькімі ручкамі.

Найбольшае захапленне выклікалі насухі. Камунікабельныя, яны смешна чмышуць носам.

Асёл весела качаецца ў сваім вальеры.

Трус не дае спакою трусіхам.

Чаплі спрачаюцца за прынесеную некім мойву.

Пацукі (не экспанаты, а прыжывалы) вылазяць з нары і крадуць ежу ў дзікабраза.

Служыцелька суцяшае насуху: «Ну што журышся, Томік? Душна, так? Я разумею, што душна, але што я зраблю».

Звяроў кормяць, відаць, спісанай з крамаў садавінай: рэзнікі яблык, апельсінаў, морквы. Дзікабразы з усяго багацця выбару пачынаюць з падгнілых ігрушак. Ліса і воўк са сваім мясам пахаваліся ў хаткі. А ласю — што таму ласю? Жуй сабе сваё сена дзень і ноч.

Мудра робяць тыя гарады, дзе заапарк душэўны і ў цэнтры — дзецям тое важна.



Бізнэс па-беларуску. Людзі прадаюць на дарогах ягады, грыбы, гародніну. Літр чарніц каштуе 40 тысяч. Калі купляеш шмат — аддаюць за 35. Кіло маладой бульбы — 5 тысяч.

## Доўжа, Лосвіда, Тарас

Дарога на Гарадок спешна рэканструюецца. Залілі гарачым бітумам так, што заляпаў усю машыну, як ні асцярожнічаў. Возера Доўжа чысціць ад водарасцяў. Возера Лосвіда застаецца злева па курсе.

У самім Гарадку ёсць невялічкі музей. Места, варта памятаць, дзе Канстанцін Вераніцын напісаў «Тараса на Парнасе» «Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса, // Што палясоўшчыкам служыў?». Не за ганарар, не за славу — проста дзеля шэдэўра.

Усяго 150 гадоў таму тут, у Гарадку, татальна — і шляхта, і люд — гаварылі такой чыстай беларускай мовай. Цяпер усё зрусачана, гэх...

Але «Пагоня» на музеі яшчэ вісіць: герб Віцебскай вобласці.

Дзень другі скончаецца.

Дарога Віцебск—Полацк—Верхнядзвінск—Дзвінск цікавейшая пасля Полацка, чым да яго.

У Полацку паспяваем яшчэ паплаваць у возеры Белым. Але робім памылку: заязджаем з боку дачнага пасёлка Гендзікі, заціснутага паміж азёрамі Чорным і Белым. Вада цёплая, але найлепшы пляж, як нам скажуць пасля, знаходзіцца з боку вёскі Булаўкі. А тут маленькі заход у ваду сярод трыснягу, у кампаніі ўсюдысісных турыстаў з Расіі. Побач стаіць плаўбаза ратавальнікаў Гендзікі, здаецца, даўно апанаваная суседняй вычурнай аграсядзібай. На лодках чуваюць рыбакі. За борам ружавее.

## Што ёсць, а чаго няма ў Полацку

Начуем не ў Полацку, а ў Наваполацку — гаспадар падмануў наконт размяшчэння сваёй кватэры. І на выгляд — прытон нейкі. Гідуешся ў душы мыцца. На чатырох чалавек 300 тысяч за ноч, але адзін з ложкаў стаіць на балконе, а там царства камароў.

Наваполацкія двары застаўленыя аўтамабілямі, бы ты ў Мінску.

У Полацк традыцыйна заязджаем з Запалоцця і выходзім да Сафіі па хісткім мосціку.

Дзяцей найбольш вабіць хуткая вада на перакатах пры ўпадзенні Палаты ў Дзвіну. Яны хадзілі б і хадзілі там у спадзяванні знайсці фібулу часоў Усяслава.

У Сафійскім саборы ёсць магчымасць узяць аўдыёгід. Музейныя хвілін пяць настройваюць у ім беларускую мову. Сабор запоўнены экскурсантамі з Расіі.

Дзяцей найбольш радуюць надпісы графіці з часоў будаўніцтва Сафіі: «Давыд, Тума, Мікула, Пётар, Варышка пісалі».

А чаму на гэтым распяцці ў Хрыста ногі прыбітыя адным цвіком, а на тым — двума? — пытаецца дачка. Расказваю пра розніцу ў каталіцкім і ўніяцкім канонах. Узгадваю і анекдот пра мітрапаліта Сямашку: «Уладыку няма калі. Ён Хрысту ногі разразае».

Сын да канца не дабыў, пайшоў пад дрэва збіраць кавалкі цэглы. Знайшоў і цікавыя жалезкі. Старадаўнасці!

На другім беразе Дзвіны, на пясчаных пляэспах, пад занядбаным паркам купаемся. Удача — ніжэй па цячэнні юнакі купаюць коней. Дзецям радасць назіраць. Дзвіна плыткая. Амаль да самага другога берага — па пояс. Але плынь нясе моцна, дзяцей нельга пакідаць.

## Пярсцёнак сераднявечнага гопніка

На пляжы нечакана сустракаем полацкага аўтара «Нашай Нівы» Р. з сынам. Ён запрашае на чай — і паказаць свае калекцыі.

Штосьці ён назбіраў сам на беразе Дзвіны, штосьці выменяў у суседзяў, штосьці купіў у антыквараў. Вось гэта калекцыя! Якіх толькі прадметаў там няма! І крывіцкія падвескі-конікі, і бразготка ў выглядзе кіта. І валынскія прасліцы, крыжыкі, і пярсцёнак сераднявечнага гопніка. Пярсцёнак як пярсцёнак нібыта, а пераверне ш — а там шып. У бойцы — страшнае дзела. Археолагі, кажа, ахаюць. Нічога падобнага ніколі не бачылі.

Для нас нешта новае — бачыць такія багатыя калекцыі ў прыватных руках. У добрых, беларускіх руках. Цэлыя XIX і XX стагоддзе ў людзей усё адбіралі. Канфіскоўвалі, кралі, бамбілі, палілі. Без нічога беларусы пазасталіся. Прапалі крыж Еўфрасінні, карціны ван Дэйка, залатыя апосталы. Божа мой, ці пералічыш, колькі ўсяго прапала! У эпоху Курапат і Хатыні ці да ручнікоў нам было, ці да карцін? І ручнікі, і карціны гараць і гніюць хутка.

І вось — мы зноў збіраем.

Але нам час ехаць, каб паспець на апошні паром у Дзісне.

У Полацку ўражвае старанне зрабіць як найбольш музеяў і арт-аб'ектаў і пры гэтым нязздольнасць стварыць нармальныя аб'екты харчавання. У піцэрыі «Damініка» на цэнтральным праспекце Скарыны любую піцу паліваюць зверху аднолькавым вострым кетчупам, які забівае смак стравы. А калісьці ж гэтую ўстанову засноўвалі з удзелам італьянцаў...

Таму не спадзявайцеся атрымаць ад Полацка тое, што можна атрымаць ад Фларэнцыі, Кракава ці Упсалы. Тут яшчэ няма «суцэльнай прасторы», няма і кулінарнай традыцыі. Але і другой Палаты, і другой Сафіі таксама нідзе няма.



Гэтая жанчына ў Дзісне штовечар сядзіць на гэтай лаве на высокім беразе над Дзвіной.

## Апошні паром

Апошні паром на Дзвіне ходзіць у Дзісне — найменшым горадзе краіны (2800 жыхароў). Калісьці гэта быў важны пункт, замак, а цяпер — маляўнічая мясціна з магчымасцю каларытна пажыць у аграсядзібе. Узвышаюцца на беразе руіны палаца. Другое дзесяцігоддзе працягваецца адбудова касцёла. Паром ходзіць па раскладзе ад 7.00 да 20.00. Мы такі спазніліся. Але перавозчык дзяжурыць на месцы — раптам што. Бачыць нас і едзе нас забраць.

Над прыстанню парома — руіны палаца.

Да касцёла берагам вядзе бруканка.

«Гляджу, як сонца заходзіць за Богаву гару. Гэта вось там, на паўночным беразе», — сядзіць жанчына на лаўцы над абрывам. Яна прыехала ў Дзісну ў 1950-х з Сібіры. І цяпер штовечар прыходзіць сюды, на гэтую лаву.

А за ёй, каля аграсядзібы «Дастатак», гламурнае чучала селяніна ў вышыванцы.



Вясёлае чучала на бельведэры аграсядзібы «Дастатак»

## Што людзі думаюць пра Украіну

Разгаварыліся з людзьмі трохі. Калі дазнаюцца, што мы з газеты, пытаюцца пра Украіну, што там робіцца, чым скончыцца. Пытаемся і мы людзей, што яны думаюць.

«Амерыканцы Украіну забраць хочуць», — кажа мужчына.

«От, ты паслухай. Каб у цябе сотку гароду забралі, табе была б крыўда? Была б? А тут не сотку — Крым Расія забрала. Амерыканцы тут ні пры чым! Калі б Пуцін не лез, украінцы даўно самі разабраліся б», — пярэчыць яму жанчына.

«У цябе сястра ва Украіне, то ты і абараняеш іх», — кажа мужчына.

«А ў цябе дачка ў Калінінградзе, то што? Ты маскоўскія каналы адны глядзіш, во і мазгі прамытыя», — рэжа жанчына.

Аднак у цэлым народ — ці за тых, ці за тых — стрыманы. У бойку не лезе. Гэта іх справа — Расіі, Украіны, а мы, беларусы, мусім сваім розумам жыць. Як Швецыя ці Швейцарыя.

У Друю прыязджаем пад 23-ю вечара. Каля кляштара нас сустракаюць айцец С. і ягоны сабака. Пёс радасным скачком валіць мяне на зямлю.

Гаворка пра беларушчыну, лёсы Касцёла і касцёла доўжыцца за поўнач, але пра яе напішам асобна, у адным з наступных нумароў.

## Друя чатырох народаў

Гудзіліну спаць усяго пару гадзін, ён устае зацемна, каб зняць світанак над Дзвіной. А мы адсыпаемся ў келлі.

Друя не такая і вялікая, хоць і насычаная сэнсамі.

Тут можна бачыць Прыдруйск у Латвіі, на другім беразе Дзвіны.

Як там размаўляюць, пытаюся? Так, як і тут, адказваюць.

А па-латышску там нехта гаворыць? Разы тры чуў у супермаркетах, адказваюць.

А мы думаем, што ў той Балтыі дасягнулі такога поспеху ў нацыябудаўніцтве.

У Друі дагэтуль сужывуць каталікі, праваслаўныя і староверы. Апошнія гавораць на вельмі правільнай рускай мове. Ад яўрэяў засталіся толькі вялікія дагледжаныя могілкі.

Кіруем на Браслаў.

## Добрага — патрошку

Заязджаем у Слабодку на хвіліну. На Воласа, да рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы, рашаем не завітваць.

Каля дарогі назіраем дзвюх казуль, якія спакойна скубуць траву ў раўчуку.

Завяртаем у Маскавічы — там вялікае гарадзішча, унікальнае сваімі скандынаўскімі артэфактамі. А яшчэ тут непаўторны від на азёры Неспіш, Поцех, Недрава і Войса. Такога больш нідзе няма.

Паветра прапахла познімі суніцамі, плывуць лёгкія аблокі.

Пасля гэтай гары і Браслаў падаецца не такім ужо і цікавым. Хоць гэта, безумоўна, мілы і варты для адпачынку горадок. З багатым музеем, з высокай, добра захаванай замкавай гарой. З традыцыйнай мураўкі касцёлам. З магчымасцю палятаць на верталёце за 160 тысяч з носа. З кварталам дамоў у «закапанскім стылі». З доўгімдоўгім пляжам на Дрывятах.

І без аніякой магчымасці паабедаць у суботу. Усе кавярні і рэстараны зачыненыя на спецабслугоўванне: вяселлі. Вось табе і значны курорт.

## Кавярня ў Відзах

Па дарозе на Відзы натыкаемся на вальеры з дзікімі звярамі ад Нацыянальнага парку. Яны там не запаркавыя, а сапраўды дзікія і буйныя.

У Відзах вячэраем. Заказ прымаюць на блінчыкі з яблыкамі, а прыносяць аладкі. Але ўсё адно смачна. Як і халаднік. Хоць і без кандыцыянера з вокнамі на захад.

Чацвёрты дзень скончаецца, пара ляцець на Мінск, работа чакае. А крыўдна: на Браславах камфортныя плюс 28, а ў Мінску цэлы тыдзень плюс 34. А ў рэальнасці на асфальце — 40 як мінімум.

**Андрэй Дынько,**
**фота Сяргея Гудзіліна**



Брукаванка ў Дзісне.

# Тэрыторыя атамана Шаўчэнкі

Пра магілёўскага паўстанца, якому сяляне «кланяліся як куміру», піша Ніна Стужынская.

Украінскія падзеі кінулі ў народ новыя лозунгі. Сярод іх наймацнейшы — «Героям слава!». Гэта даніна памяці тым, хто ахвяраваў жыццё за вольную краіну. Змаганне працягваецца. Героі ажываюць, яны запатрабаваныя часам, прыклад іх дзеяння і ахвярнасці абсалютна па-новаму разглядаецца ў сучасных падзеях. Іх гісторыі — крыніца новых перамог.

1924 год сыходзіў у гісторыю. Савецкая ўлада пакрысе ўмацоўвалася на абшарах Беларусі. Поўнаму шчасцю новых гаспадароў перашкаджалі акцыі, на той момант ужо рэдкія, партызанскіх аддзелаў ды баевікоўадзіночак, якія засталіся на лясах пасля знішчэння галоўных сіл антысавецкага супраціву.

Кіраўніцтва Магілёўскай акругі тэрмінова сабралася на сакрэтнае паседжанне. За круглым сталом падводзіліся вынікі года. Пачалі з самага набалелага. Напярэдадні, 10 снежня, ва ўмовах сакрэтнасці засядала бюро Магілёўскага акружкома КПБ. Паседжанне было цалкам прысвечана вядомай у акрузе асобе атамана Шаўчэнкі.

Удзельнікі распавялі пра высілкі па знішчэнні «паралельнай улады». Партыйцы скардзіліся на Акружны аддзел ДПУ, які не надаваў належнай ацэнкі «бандзе Шаўчэнкі». Таксама нагадалі пра ненармальныя адносіны паміж ДПУ і міліцыяй, якія немаведама што дзеляць, прывялі да правалу шэрагу аперацый супраць атамана і вялікіх чалавечых стратаў. Кіраўнікі акругі падкрэслілі, што «ў тых раёнах, дзе есць Шаўчэнка, міліцыі немагчыма працаваць і там уся ўлада тэрарызавана».

### «Можа ўзняць цэлыя вёскі»

Па сутнасці, Шаўчэнка на Магілёўшчыне быў гаспадаром і сапраўды «паралельнай уладай». Ён не пакідаў без увагі выпадкі рабаўніцтва сялян як з боку савецкіх функцыянераў, так і з боку іншых атаманаў. А іх на Магілёўшчыне хапала: дзейнічалі ўзброеныя антысавецкія аддзелы Пруднікава, Іванова, Багданава, Ануфрыева, Агароднікава, з дзясятак лясных адзіночак. Шаўчэнка забяспечваў вольніцу ў лесе: сяляне беспакарана гналі самагонку, нарыхтоўвалі дровы. На бюро прызнавалі, што людзі атамана падтрымліваюць. «Ён забараніў рабаваць сялян, карыстаецца іх сімпатыяй і аўтарытэтам», — гучала ў выступах.

Старшыня акружнога камітэта КПБ А.І. Хацкевіч падсумаваў, што Шаўчэнка вельмі небяспечны і мэты яго дзейнасці палітычныя. «Ён гуртуе вакол сябе насельніцтва і ў патрэбны момант можа ўзняць цэлыя вёскі, — палохаў Хацкевіч удзельнікаў нарады. — Ён мае такія сувязі, што ў стане справакаваць ДПУ і міліцыю, відавочна, што ён мае там сваіх асведамляльнікаў». Хацкевіч заклікаў змяніць погляд на сутнасць і характар «банды» і прыняць усе меры для яе ліквідацыі. Сур'ёзны праціўнік патрабаваў вялікіх намаганняў і каардынацыі дзеянняў карных органаў.

**Ніна Стужынская**

Гісторык. Даследчыца гісторыі рэпрэсій і паўстанцкага руху ў Беларусі ў першай палове XX ст. Жыве ў Мінску.



**Работнікі міліцыі, якія бралі ўдзел у ліквідацыі Шаўчэнкі. У цэнтры — сядзіць Яўхім Кроль.**



**Цела атамана Васіля Шаўчэнкі.**

### Не бралі ні морфій, ні куля

Атаман трымаўся тактыкі, якая дазваляла яму паспяхова дзейнічаць і пазбягаць пастак ГПУ. Пры ім звычайна было не больш як 3—7 чалавек. Але яго невялікая група па сігнале за адну ноч вырастала ў сотню.

Пасылаць атрад для адкрытага бою было не варта. Магілёўскія карнікі ўжо мелі сумны досвед такіх аперацый. У верасні каля вёскі Княжыцы (10 вёрстаў ад Магілёва) восем добра ўзброеных баевікоў Шаўчэнкі напалі на атрад міліцыянтаў пад загадам начальніка райаддзела Скатнічэнкі. Падчас перастрэлкі і рукапашнага бою загінуў агент крымінальнага вышуку і быў паранены яшчэ адзін супрацоўнік аддзялення.

У снежні Скатнічэнка з шасцю міліцыянтамі паспрабаваў зноў абкласці Шаўчэнку ў вёсцы Навасёлкі, на поўдзень ад Магілёва. Але атаман за лічаныя гадзіны да з'яўлення карнікаў пакінуў Навасёлкі. Агентура, купленая ўладаю за соль і мануфактуру, паведаміла, што баевікі накіраваліся ў вёску Пушча. Скатнічэнка і яго людзі акружылі пасёлак, прачасалі хутары паблізу. Насустрач трапіўся мясцовы жыхар, які ці то жартам, ці то сур'ёзна назваўся Дуброўскім. Ён ахвотна паведаміў, што «банда» пры падыходзе міліцыі схавалася ў лесе. Міліцыянты вырашылі даць сабе кароткі адпачынак, зайшлі ў хату добразычлівага Дуброўскага напіцца вады. І былі сустрэтыя стрэламі. Шаўчэнка са сваімі партызанамі хаваўся ў другім пакоі. У хаце застаўся цяжка паранены міліцыянт Ялыніч, астатнія выбеглі на двор і пачалі страляць па вокнах. Міліцыянты Арлоў і Тарасенка паспрабавалі падпаліць хутар. Арлоў быў застрэлены. Людзі Шаўчэнкі кінулі з вокнаў хаты некалькі бомбаў і, карыстаючыся разгубленасцю міліцыянтаў, уцяклі.

Няўдачы выклікалі раздражненне ў начальніка акруговай міліцыі Сымона Файнштэйна. Шаўчэнка псаваў яму святы: напярэдадні, у лістападзе 1924, яго ў гонар 7-й гадавіны рабочасялянскай міліцыі, як «найстарэйшага энергічнага работніка», узнагародзілі срэбным гадзіннікам ад НКВД БССР.

На працягу 1924 спробы знішчыць атамана рабіліся не раз. У аддзел Шаўчэнкі засылалі ўзброеных агентаў, якія меліся забіць атамана. Але не ўдалося. Намагаліся ўсыпіць яго морфіем і схапіць. Таксама не спрацавала. «Ён узброены да зубоў, хітры і смелы», — тлумачылі сілавікі адсутнасць вынікаў. Трэба было шукаць іншыя варыянты.

### Арыштаваць усіх, хто спачуваў

Па агентурных дадзеных, Шаўчэнка меў да сотні ўкрывальнікаў. Імёны 90 чалавек былі вядомыя чэкістам. Трэба пачынаць з укрывальнікаў — была прапанова кіраўніка міліцыі. Браць іх першымі, каб паказаць, што «савецкая ўлада зусім не мяккая».

Прынятая пастанова засведчыла, што «наяўнасць банды Шаўчэнкі і яе дзейнасць варожа адбіваецца на палітычным стане акругі. Банда... падрывае аўтарытэт улады, разбэшчвае сялян і стварае сабе аўтарытэт». Менавіта таму, што атрад Шаўчэнкі стаў вельмі папулярным і склаў альтэрнатыву мясцовай уладзе, партыйныя функцыянеры вырашылі звярнуцца да ЦК з тым, каб гэты орган даў адмысловае распараджэнне ГПУ Беларусі аб рашучых мерах па ліквідацыі партызана і яго прыхільнікаў.

У дакуменце асобным радком згадвалася пра неабходнасць дадатковых сродкаў на буйную аперацыю. Запланавана было пачаць з арыштаў хаўруснікаў і ўкрывальнікаў. У вёскі накіроўваліся спецыяльныя карныя аддзелы. «Працу па ліквідацыі гэтай банды лічыць ударна-баявой», — з пафасам заклікала пастанова сходу.

### Усёмагутны Кроль

Улады зразумелі, што гэты «гаспадар акругі», колькасць прыхільнікаў якога ўсё прырастала, уяўляе рэальную пагрозу. Цярпенне скончылася. План па ліквідацыі атамана распрацоўваўся на самым версе. Савет народных камісараў Беларусі даручыў кампетэнтным органам ліквідаваць «гэту бойку».

У аперацыі брала ўдзел нават група з Менску на чале з галоўным сілавіком Беларусі. Сам Яўхім Кроль пакінуў сталіцу, каб знішчыць «бацьку» Магілёўшчыны. Дзёрзкія забойствы сваіх падначаленых Кроль дараваць былому царскаму афіцэру не мог. За пяць гадоў сваёй вайны Шаўчэнка надта разлаваў улады.

Цікава, што таварыша Кроля падначаленыя таксама звалі «бацькам». Накіраваны Масквою Яўхім Майсеевіч узяў у рукі амаль усе сілавыя пасады ў тагачаснай Беларусі. Заняўшы ў гады «палітычнага бандытызму» месца старшыні рэўтрыбунала, потым начальніка мінскай гарадской міліцыі і гарадскога крымінальнага вышуку, Кроль у тым жа 1921 падымаецца на галоўны міліцэйскі пост у рэспубліцы. Ён жа адначасова — старшыня вышэйшага суда і намеснік наркамаў юстыцыі і ўнутраных спраў. Да ўсяго яшчэ і сябра Цэнтральнага выканаўчага камітэта. Пра падзел галінаў улады ў тыя часы і размовы не было.

### «Шыракаплечы, рэлігійны, выдатны стралок»

У юбілейным зборніку, прысвечаным 10-годдзю беларускай міліцыі, Яўхім Кроль пакінуў цікавыя, нават з рамантычным адценнем, успаміны пра ліквідацыю Шаўчэнкі. Аўтар дэманстраваў імкненне да аб'ектыўнасці, павагу да ворага. Але такі падыход цалкам быў і ў яго інтарэсах. Чаго вартая перамога над слабым нікчэмным праціўнікам. Начальнік не шкадаваў эпітэтаў у адрас атамана: «Шыракаплечы, рэлігійны, выдатны стралок... Ён быў пагрозай савецкіх работнікаў», — прызнаваў Кроль. Да таго ж разумны, няўлоўны. Па словах галоўнага міліцыянта, Васіль Шаўчэнка «цараваў» не толькі ў Бялыніцкім раёне, але, «маючы многа ўдзельнікаў, пяць год крываваю мараю гаспадарыў у Магілёўскай акрузе». Савецкія работнікі «не смелі з'яўляцца на яго тэрыторыі». Людзі «кланяліся яму, як куміру», — са здзіўленнем і пашанаю да знішчанага ворага ўспамінаў тыя дні міліцэйскі кіраўнік.

### Здымак на памяць

Як успамінаў Кроль, план аперацыі прадугледжваў рухацца з трох бакоў буйнымі міліцэйскімі аддзеламі ў бок вёскі Княжыцы Бялыніцкага павета. Туды ж накіроўваўся і атрад з Менска на чале з Кролем. Тыдзень атрад чакаў данясенняў выведкі. Нарэшце дачакаліся тэлефанавання агента, які ведаў, дзе спыніцца Шаўчэнка. Група накіравалася ў Княжыцкі лес, улюбёнае месца атамана. Кроль успамінае, што пачуцце страху і насцярогі не пакідала міліцыянтаў. Яны ведалі, колькі работнікаў міліцыі загінула ад гранат і карабіна баевіка. Збройны майстар у мінулым, Шаўчэнка выдатна страляў. У Княжыцах з палёгкай уздыхнулі, пачуўшы навіну, што атаман забіты ў перастрэлцы з адным з карных атрадаў. Дакладна дзе і як, даведацца не ўдалося. Тэлефонны провад у сельскім савеце быў перарэзаны. Мінская група вярнулася ў Бялынічы. Цела атамана, прыкрытае сенам, ляжала на міліцэйскім двары. У юбілейным зборніку, выдадзеным да 10-годдзя беларускай міліцыі, ёсць фота забітага атамана, сведчанне трыумфу Кроля і яго каманды. Бачна, што ўжо нежывое і закасцянелае цела маладога мужчыны падцягнулі і прыставілі да сцяны. Спецыяльна для фота. Бомбы і карабін побач — элементы дэкору. На жаль, пакуль не знойдзеныя прыжыццёвыя фота Васіля Шаўчэнкі. А іх жа, як сведчаць крыніцы, у вялікай колькасці раздавалі міліцыянтам і агентам падчас карных аперацый.

Падобна на тое, што Кроль перачытаў свой артыкул і заўважыў яго залішнюю кампліментарнасць. Як бы спахапіўшыся, ён знаходзіць для Шаўчэнкі абразлівыя эпітэты. Не да месца згадвае «ламброзаўскі чэрап» сялянскага верхавода. Шырокія скулы і кірпаты нос атамана падаюцца яму чамусьці «жывёльнымі». Хоць, магчыма, нічога кепскага аўтар мемуараў не меў на ўвазе. Кроль вельмі любіў кошак. Апошнія гады перад арыштам Яўхім Майсеевіч займаў пасаду намесніка міністра па міліцыі (была такая) у Алма-Аце. Самотны, ён жыў, па ўспамінах калег, са сваімі трыма кошкамі ў бруднай кватэры, не звяртаючы ўвагі на побытавыя праблемы. У 1938 быў адкліканы ў Маскву, у студзені 1940 — расстраляны.

### Ліквідацыя ў Васільках

...Апошні дзень жыцця заспеў Васіля Шаўчэнку (гэта ж трэба так супасці) на хутары каля вёскі з прыгожай назваю Васількі. Яе жыхары якраз у тым годзе праславіліся на ўсю Беларусь, арганізаваўшы меліяратыўнае таварыства і ўручную выкапаўшы канал у 9 вёрстаў даўжынёй. Старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў спецыяльна прыязджаў у Васількі, каб сустрэцца з меліяратарамі. Васількоўцы былі ўганараваныя ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга №1. Ордэн пад другім нумарам атрымаў Кроль — за ліквідацыю Шаўчэнкі.

Паводле агентурных звестак, атаман знаходзіўся на хутары селяніна Рыжковіча каля Васількоў. Група захопу пад кіраўніцтвам міліцыянта Паўлоўскага з пяці чалавек спынілася каля дома Рыжковіча. Запыталіся ў гаспадара наконт яго госця. Вяскоўвец няветліва адказаў, што нічога і нікога не ведае. У гэты момант Шаўчэнка стрэліў з акна хаты і забіў старшага міліцыянта Бялыніцкага раёна Царанкова. Пачалася перастрэлка, у ёй атаман загінуў. Аб ліквідацыі «банды» паведаміла зводка данясенняў па Магілёўскім крымінальным вышуку ад 25 снежня 1924.

Але нават без атамана шаўчэнкаўцы працягвалі дзейнічаць: пасля гібелі Васіля яго аддзел узначаліў нейкі Зяньчук, пра якога пакуль нічога не вядома. Толькі ў красавіку 1926 варшаўскія газеты паведамілі, што ў Магілёве да расстрэлу прысудзілі 43 паўстанцаў «банды Васіля (Базыля) Шаўчэнкі». Тады ж савінкаўская газета «За свободу» скупа напісала пра некаторыя факты з жыцця атамана. Разам з братам у 1919 Васіль уступіў на паўстанцкі шлях. У 1921 яны, абодва афіцэры царскага войска, былі арыштаваныя і асуджаныя да смяротнага пакарання. Але прысуд застаўся на паперы, браты з турмы ўцяклі, каб за тры гады стаць «гаспадарамі» Магілёўскай акругі.

Але саветы бралі верх. Беларусь несавецкая, за якую ваяваў атаман, адступіла на доўгія гады.

# Пан... камп'ютара і мабільніка. Я-іпастасі

Піша **Франц Сіўко.**

*Добры вечар, дзеўчына!*
*Куды йдзеш?*
З народнай песні

**Я-грамадзянін.** Упёрты стратэг. Гатовы прасякнуцца агульнаю справай нават тады, калі і грошы за гэта не атрымліваю. Імпэт і здольнасці стратэга яскрава выяўляю падчас лёсавызначальных для краіны падзей, калі з пераліку матэрыяльных чужых і нематэрыяльных уласных каштоўнасцей і прыярытэтаў без ваганняў аддаю правагу першым, як правіла, геаграфічна ад родных абшараў далекаватым, — нафце, газу, вугалю і г.д. Лёгка купляюся на абяцанкі сяброўства, у тым ліку і вечнага. Чым больш ніякі ў гаспадарчых справах, тым больш да стратэгіі і развагаў пра яе схільны.

**Я-сем'янін.** Дзеталюб. Ва ўсім, што ні раблю, кіруюся выключна меркаваннем мэтазгоднасці з пункту гледжання забеспячэння выгодаў для дзяцей і ўнукаў. За што яны часта плацяць мне чорнаю няўдзячнасцю, выцягваючы ўпотай з сямейных схронаў ды падполаў сталовае начынне (патэльні, плошкі, фужэры, шклянкі і інш.) ды здаючы яго ў пункт другаснай сыравіны дзеля атрымання капейчыны на выратавальнае зелле пасля перапіву.

**Я-выхавальнік.** Роспачлівец. Убачыўшы на экране тэлевізара барадатую жанчыну, пужаюся і тут жа пачынаю наракаць на ўвесь белы свет, як цяжка было мне ўчора падчас сямейнага прагляду той тэлеперадачы растлумачыць непаўнагадоваму сыну (пляменніку, унуку, праўнуку) факт гэткае ейнае вычварнае барадатасці.

**Я-працаўнік.** Працаголік-патрыёт. Часткова — хітраван. Гатовы хадзіць на службу да 90-гадовага ўзросту і ўсё — з меркаваннем быццам бы вышэйшых, маўляў, дзеля мацавання любай айчыны. Але толькі пры ўмове, што мяжа выхаду на пенсію ў бліжэйшы час ні на хвіліну не падвысіцца.

**Я-маёмаснік.** Распешчаны супербагацей. Ем на ноч бульбу з мясам, а на куды таннейшыя рэкамендаваныя спецыялістамі да ўжывання рыбу ці селядзец і глядзець не хачу.

**Я-спажывец.** Ахвотнік да добрага, але пажадана таннага. Кепскае нятаннае абыходжу за вярсту. На нятаннае добрае — аблізваюся ў чаканні: а раптам заўтра патаннее. Зрэдку, набраўшыся мудрасці, што жыць напоўніцу варта ўсё-такі не заўтра, а сёння — у рэшце рэшт прынаднае нятаннае набываю.

**Я-мінак.** 1. Хамула-калектывіст: «Гэй, мужык, слыш, дай закурыць!» або: «Гэй, мужык, слыш, дакладзі — не хапае». 2. Калектывіст—тонкі псіхолаг: «Гэй, мужык, слыш, можна ў цябе спытаць?..»

**Я-начальнік.** Спецыяліст шырокага профілю. Два ў адным — як мінімум. І вытворчасць «выцягну», і собскую кішэню, як магчымасць надарыцца, «пагрэю», і грамадзянскай пазіцыяй падначаленых грунтоўна пацікавіцца за лішні клопат не палічу, і шмат што іншае з няпісанага начальніцкага кодэксу не адпрэчу.

**Я-падначалены.** Звычайны, паводле агульнавядомага выслоўя: ты начальнік — я дурань.

**Я-сусед.** Спачувальнік-дабраслівец. «Суседка казала: паехала дачка ў Кіеў, а яны, уяўляеце, майдан у сябе, сволачы, пасярод горада ўладзілі... І як там цяпер быць беднай дзеўцы? Вось што ёй рабіць, скажыце, га?»

**Я-каханак.** Чуллівец. Закохваюся часцей, чым дазваляе ўнутраны, аслаблены радыяцыяй і празмернаю схільнасцю да моцных напояў эмацыйны рэсурс. Пры першай няўдачы ў амурных справах плачу, адчайна шукаю вяроўкі ці хоць якога шнура ды пагражаю начным праменадам пад мост — быццам бы з мэтаю засіліцца. Натыкнуўшыся на абыякавасць аб'екта закаханасці да такіх захадаў або не знайшоўшы вартага начыння, лёгка мяняю кірунак вандроўкі і замест моста сунуся ў бліжэйшую забягалаўку.

**Я—сябра грамадскага таварыства.** Вынаходлівы мімікрыст. Упісаўшыся, напрыклад, у якуюнебудзь антыалкагольную суполку, рэзка мяняю звыклы лад жыцця і бяру за ўзор паводзіны персанажа з байкі Эдуарда Валасевіча : «Ён ночку піў пад коўдраю гарэлку, а днём — мінводы на пахмелку».

**Я-медыяпрацаўнік.** Чалавек-шарык. У сітуацыі санкцыяванай і нядвухсэнсоўнай — кругла брашу, у несанкцыяванай двухсэнсоўнай — спадцішка, але ўсё гэтак жа кругла падбрэхваю.

**Я—аб'ект-суб'ект** навукова-тэхнічнага прагрэсу. Сучасная, але дазвання аддадзеная ладу жыцця і памяці продкаў асоба. Карыстаючыся найноўшага выпуску мабільным тэлефонам і камп'ютарам, здольны напоўніць маніпуляцыі з імі такім зместам, быццам усё гэта — толькі саха ды каса, адно што мадэрнізаваныя.

**Я-інтэрнаўт.** З колеру шаліка, камізэлькі, ботаў, валасоў ды інш. магу быць які заўгодна: і чырвоны, і жоўты, і руды, і бяляво. Светапоглядна найчасцей — з адценнямі натуры зялёнага чалавечка. Сутнасць выяўляю ад хвіліны, як пачынаю пісаць каментары да артыкулаў на інтэрнэт-форуме. Адмысловец на варце чужога сумлення. Вельмі перасмыкаюся тым, як паглядзяць, напрыклад, суседзі-ўкраінцы ў вочы маткам з Растова, Калугі або Пензы, чые дзеці, найміты сепаратыстаў, пакалечыліся ці загінулі падчас антытэрарыстычнай аперацыі ў Данецку і Луганску.

**Франц Сіўко**

нар. 1953. Пісьменнік. Жыве ў Віцебску.



## Выйшаў дэбютны зборнік вершаў Таццяны Нядбай

Першы зборнік вершаў Таццяны Нядбай «Сірэны спяваюць джаз», выдадзены ў Варшаве, сабраў тэксты, напісаныя за дзесяць гадоў. Таццяна была пераможцай конкурсу імя Уладзіміра Караткевіча, арганізаванага ў 2005-м Беларускім ПЭН-цэнтрам. У час Плошчы 2006-га яна трапіла на суткі ў ноч разгону намётавага гарадка. Але ў яе вершах ані знаку палітыкі ды публіцыстыкі.




Адзін з найпаслядоўнейшых вобразаў яе паэзіі — дарога. Не дзіва, бо Таццяна нарадзілася ў Полацку, вучылася ў Мінску, Вільні і Любліне, а цяпер жыве між Мінскам і Варшавай. Тут і «дарогі як такія», цягнікамі ды самалётамі, і шлях сталення ўласнай душы. Чытаючы зборнік, нібы сузіраеш, як аўтарка ідзе ад засяроджанасці на асабістых пачуццях да шырэйшага погляду на свет, на іншых людзей. Разуменне якіх прыйшло ёй праз той пакутлівы позірк у саму сябе.

Прыцягваюць увагу небанальныя рыфмы — аж да перанесеных дзеля рыфмы

І куды ж падзецца ад гэтай прагі,
неспатольнай ніводнай
вядомай магіяй,
неўтрыманай ніякімі моцнымі
кратамі
яна шэпча толькі адно — кратай,

яна просіць толькі адно — лашчы,
у сплецені ценяў з целамі нашымі
дакранайся да самых
падатлівых выгінаў,
гэта плынь, што нясе
па вясне крыгі,

гэта так, як долу ўглядацца
з вежаў
навальніца, што стогнамі
неба рэжа й
працінае на выдыху горнай ракой
тонкі спакой.

словаў — гэта было ў паэткі ад самага пачатку.

Прыходзь да мяне ўвечары,
Мы будзем запальваць свечы, рызЗё ападзе з плеч маіх,
І ў рытмах уласных вершаў, мо,
Ты будзеш — які ўжо раз! —
першы мой.

Лірыка — «жаночая», скажа чытач, пакуль не натрапіць на вершы, напісаныя ад імя мужчыны. Скажа, што лірыка «інтымная», пакуль не натрапіць на думку, што

Рай—гэта не там, дзе —
усяго даволі
Рай — гэта калі цішыня ўнутры.

Шлях да ўсведамлення ўласнай самакаштоўнасці пройдзены. Якія дарогі павядуць паэтку далей?

**ІН**

## ФУТБОЛ

### «Шахцёр» — «Зюлтэ-Варэгем»




**7 жніўня на «Барысаў-Арэне» салігорскі «Шахцёр»** у трэцім кваліфікацыйным раўндзе Лігі Еўропы будзе прымаць бельгійскі «Зюлтэ-Варэгем». Пачатак а 20. У першым матчы беларусы перамаглі з разгромным лікам 5:2, дома ім трэба не ўпусціць такую перавагу.
Таксама ў гэты дзень у Румыніі мінскае «Дынама» падужаецца з ЧФР з горада Клуж. Дома мінчукі мінімальна перамаглі — 1:0.

### Тур 20

**9—10 жніўня** адбудзецца чарговы тур чэмпіянату Беларусі па футболе. У суботу гуляюць:
«Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Брэст);
«Нёман» (Гродна) — «Белшына» (Бабруйск);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Мінск».
У нядзелю:
«Нафтан» (Наваполацк) — БАТЭ (Барысаў);
«Слуцк» — «Дынама» (Мінск);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Гомель».

## ІМПРЭЗЫ

### Рамесніцкі летнік у вёсцы Азярычына

**Фэст у Пухавіцкім раёне** на рацэ Пціч будзе праводзіцца ўжо трэці год запар. Тэрмін правядзення мерапрыемства — з 6-га да 10-га жніўня. Усе ахвотныя змогуць асвоіць традыцыйныя беларускі рамесніцкі занятак, характэрныя для дадзенай мясцовасці, — лазапляценне, а таксама кавальства.

### Паказальнае кармленне львоў

**Мінскі заапарк (Ташкенцкая, 40)** запрашае на паказальнае кармленне львоў, якое адбудзецца ў дзень нараджэння ўстановы — 9 жніўня.

### Віктар Сямашка

**8 жніўня творчы вечар у кнігарні «Галіяфы» (Валгаградская, 6)** ладзіць беларускі паэт, музыка і радыёжурналіст Віктар Сямашка. Пачатак а 19.

### Сяброўская вечарына з Алегам Трусавым

**8 жніўня ў галерэі «Ў» а 18** адбудзецца «Сяброўская вечарына» з гісторыкам, навукоўцам, выкладчыкам, сябрам беларускага ПЭН-цэнтра Алегам Трусавым. У праграме — шчырая размова пра актуальныя пытанні, выступы вядомых людзей.




### Беларускі кінематограф 20-х — 30-х г.г. XX стагоддзя ў кінаплакаце

Экспазіцыя складаецца з 30 поўнафарматных і поўнакаляровых рэпрынтаў кінаплакатаў да беларускіх фільмаў 1926–1940 гг. Першае, што звяртае на сябе ўвагу, — гэта тры абсалютна ўнікальныя ўзоры на беларускай мове (да фільмаў «Кастусь Каліноўскі», «Песня вясны» і «Джэнтльмен і певень»). Выстава працуе ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4).





## ВЫСТАВЫ

### Вялікае Княства Літоўскае на старажытных геаграфічных мапах

**Арганізатары выставы, што разгарнулася ў творчай прасторы «Цэх» (Незалежнасці, 58/6)** прапануюць сёння зірнуць на старажытныя геаграфічныя мапы Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Еўропы і свету і паспрабаваць убачыць сябе ў іншым гістарычным ракурсе і маштабе, акунуцца ў свет вобразаў і дыскусій, якія могуць падштурхнуць нас да пераасэнсавання сваіх уяўленняў пра «межы» Беларусі.

### Служэнне прыгажосці

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5)** запрашае да 15 верасня на выставу «Служэнне прыгажосці», прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі Таццяны Міхайлаўны Каламійцавай. На выставе паказаны фатаграфіі, дакументы, нотныя рукапісы, музычныя зборнікі з асабістага архіва народнай артысткі.

## КІНО

### Він Дызель — дрэва

Вартаўнікі галактыкі
**Жанр:** фантастыка, прыгоды, баявік, камедыя
**Рэжысёр:** Джэймс Ган
**У ролях:** Крыс Прэт, Зоі Салдана, Дэйв Бацiста, Він Дызель, Брэдлі Купер, Лі Пейс, Майкл Рукер, Карэн Гіліан, Бенісіа дэль Тора
ЗША, 121 хв.

Пітэр Квіл становіцца ахвярай паляўнічых за галовамі пасля крадзяжу таямнічай сферы, за якой паляваў Ронан — магутны злодзей, поўны амбіцый. Каб падмануць Ронана, Пітэру даводзіцца аб'яднацца з чацвёркай незвычайных персанажаў: узброеным да зубоў янотам-кібаргам Ракетай, дрэвападобным гуманоідам Грутам, небяспечнай і загадкавай Гаморай і мсціўцам Драксам Разбуральнікам. Але новыя героі не ўяўляюць, якую шкоду можа нанесці загадкавая сфера ў няправільных руках.
Фільм заснаваны на аднайменных коміксах 2008 і 1969 гадоў, гэта дзясяты фільм сусвету Marvel. Рэжысёрам незвычайнага праекта стаў Джэймс Ган — сцэнарыст, прадзюсар, рэжысёр і акцёр камедыйных фільмаў.
Стужка спрабуе зацвердзіцца ў жанрах і камедыі, і драмы, і эпічнай сагі, але найбольш адпавядае жанру гумарыстычных прыгодаў. Героі не пафасныя і даволі глыбокія, не кажучы ўжо пра іх незвычайны выгляд і багатую біяграфію. Для стварэння персанажаў Грума (Він Дызель) і Ракеты (Шон Ган, агучка Брэдлі Купер) былі выкарыстаныя тэхналогіі захопу руху і ротаскапіравання адначасова. Фільм дынамічны і вясёлы, прысутнічаюць відовішчныя бойкі і прыгожыя планы галактыкі. Да таго ж нечаканай асаблівасцю стала музыка 70-х, якая гучыць амаль на працягу ўсяго фільма.
Яшчэ да выхаду першай часткі былі анансаваны сіквел, які з'явіцца ў 2017 годзе.

**Настасся Уласава**

ROCKET GROOT
MARVEL GUARDIANS OF THE GALAXY

# Жаданае за рэальнае Віктара Марціновіча

Закрануў за жывое артыкул Віктара Марціновіча **«Беларусь удалася»** («НН», №26, 16 ліпеня).

Да чаго ж далёкія вывады робіць аўтар на аснове надзвычай малазначных прыкладаў! Асабіста ў мяне сцверджанне аўтара аб тым, што «калі б па Мінску ліпеня 2014 года прайшоўся нацыяналіст-рамантык з сярэдзіны 90-х, калі б ён завітаў на моўныя курсы, падзівіўся на рэкламу, пачытаў навіны і пабачыў выставы ў музеях... ён бы проста не паверыў сваім вачам» нічога, акрамя горкай усмешкі, выклікаць не можа. А калі б на тым рамантыку была футболка з бел-чырвона-белым сцягам, то нядоўга ён бы шпацыраваў — да першага патруля...

Так, любы беларус з года 1994-га насамрэч не паверыў бы сваім вачам, калі б змог трапіць у сённяшнюю Беларусь. Але гэта быў бы шок ад таго, што беларускага ў Беларусі цяпер са свечкай не адшукаеш!

Няўжо спадар Марціновіч сапраўды верыць, што фальшывыя і імітацыйныя білборды і «сіці-лайты з надпісамі «Каханне» — маё першае слова па-беларуску» могуць апраўдаць тую свядомую і мэтанакіраваную палітыку русіфікацыі, якая праводзіцца з часоў Ганебнага рэферэндуму 1995 года?

У 1995 годзе больш за 50% школьнікаў вучыліся па-беларуску. Абавязковае вывучэнне беларускай мовы было ўведзена ў навучальныя праграмы ўсіх ВНУ. Ішла вялікая праца па стварэнні новых школьных праграм. Курс гісторыі рабіўся «беларусацэнтрычным». Беларуская мова прыйшла ў дзіцячыя садкі. А гляньма на Беларусь, якая «ўдалася»...

У гарадах беларускамоўныя школы можна пералічыць па пальцах! Прынцыповых выкладчыкаў нярэдка выкідваюць на вуліцу, як здарылася зусім нядаўна з прафесарам Гродзенскага медуніверсітэта Астроўскім. І ўжо, заўважце, пасля Крыма і ўкраінскіх падзей. Такіх людзей трэба на руках насіць, а тут такая знявага.

А закрыццё ліцэя імя Якуба Коласа?

Няма ніводнай сярэднеспецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы з беларускай мовай навучання! І хто ў такой сітуацыі захоча аддаваць сваю дачку ці сына ў беларускі клас?

Для Марціновіча невялікая прамова Лукашэнкі на беларускай мове — ледзь не змена курсу. А для мяне тое, што на ўвесь шматтысячны Магілёў толькі адна Ялінка Салаўёва навучаецца на нашай мове, сведчыць пра дзяржаўную палітыку.

Ніякія саматужныя «моўныя курсы» з сотняй наведвальнікаў не заменяць паслядоўнай дзяржаўнай палітыкі па падтрымцы дзяржаўнай мовы. Дарэчы, няўжо 500 наведвальнікаў «Мовы нанова» можна лічыць дасягненнем для двухмільённага Мінска? Тут плакаць трэба, а не радавацца! Тым больш, што прыходзяць туды людзі, якія вывучалі мову ў школе. А гэта сведчыць пра катастрафічна нізкі ўзровень яе выкладання.

Віктар, вы самі верыце ў тое, што пішаце?! Беларускую кнігу загналі ў інтэрнэт-гета. У райцэнтрах кнігарні даўно не бачылі выданняў Някляева, Барадуліна, Бураўкіна, Хадановіча, Быкава, не кажучы ўжо пра творы маладых літаратараў. А нядаўні скандал з «Гродназнаўствам»?!

Я, жывучы ў незалежнай Беларусі, карыстаючыся дзяржаўнай беларускай мовай, не магу атрымаць ніводнага дакумента — ні даведкі ў ваенкамаце, ні білета на цягнік — на дзяржаўнай мове! Гэта ж палітыка прэзідэнта і ўрада, каб загнаць беларускую мову ў падполле і маргіналізаваць яе.

Калі раней даводзілася чуць на свой адрас «прыйшоў тут са сваёй беларускай...», то цяпер «запісваюць» у «бандэраўцы». Вось дык «удалася» Беларусь...

Паспяховасць дзяржаўнага будаўніцтва не вымяраецца колькасцю Шагалаў на запраўках у Віцебску. Галоўнае — гэта абарона правоў грамадзян ва ўсіх сферах: ад сацыяльнай да культурнай. А так атрымліваецца, што маці генерала Захаранкі, па Марціновічу, павінна задаволіцца выставай «Дзесяць вякоў беларускага мастацтва» і забыць пра свайго сына?

...І ў Чэхаславакіі ў 1968 годзе, а і ў Польшчы ў часы Ярузэльскага дзяржава падтрымлівала нацыянальную мову ва ўсіх сферах (нават дзяржбяспека яе выкарыстоўвала, што для нашых рэалій увогуле фантастыка!). Музеяў і адрэстаўраваных замкаў у іх нават тады было дакладна ў разы больш, чым у нас цяпер. Але ж не скажа чэх, што пасля 1968-га ягоная краіна «адбылася». І Польшча «адбылася» не ў 1981. Свабода слова, правы чалавека, падзел уладаў — вось праўдзівыя крытэры таго, якая дзяржава «адбылася».

Сам тэзіс Марціновіча, што калі Лукашэнка «перавыхаваецца», стане «нацыянальным па форме», як казалі бальшавікі, то будзе нам усім «шчасце», выклікае шмат пытанняў. Мы што, павінны забыць Захаранку, Ганчара, Красоўскага? Павінны забыць тысячы зламаных жыццяў? Павінны змірыцца з маральнымі прыніжэннямі? Павінны забыць шал БТэшных выкармышаў, якія плявузгалі пра «літаратурнага паліцая» Васіля Быкава? Дзеля чаго? Усё гэта не кампенсуеш няўцямным выступам Чаргінца на адкрыцці музея Быкава. Дый сам музей — гэта ганьба. У цэнтры Мінска павінен стаяць помнік Быкаву! А так... У Беларусі, якая «ўдалася», іншыя прыярытэты — мюзікл пра «друга Уга», чарговы «Славянскі базар» з безгалосым Ігарам Маісеевым і іншыя «значныя культурныя падзеі».

Калі ў вашай, спадар Марціновіч, Беларусі можа з лёгкасцю спалучацца прыняцце страшнага беззаконня з радасцю ад чарговай імпрэзы ў Мастацкім музеі, то ваша Беларусь удалася. З чым вас, спадар Марціновіч, і віншую. Толькі гэта яшчэ не наша Беларусь, не беларуская. І падзеі ва Украіне паказалі, што шлях да беларускай Беларусі яшчэ надзвычай нялёгкі.

**Дзяніс Рабянок, Калінкавічы (Гомельская вобласць)**

**Навіну падказаў чытач**

## Камп'ютарны геній з Гомеля выйграў сусветны чэмпіянат пра праграмаванні

Японца і кітайца перагнаў!

Гамяльчук Генадзь Караткевіч перамог у міжнародным чэмпіянаце па праграмаванні «Яндэкс. Алгарытм». Фінал яго прайшоў 1 жніўня ў Берліне.

За перамогу змагаліся 3890 удзельнікаў з 72 краін, у тым ліку 161 — з Беларусі. Караткевіч стаў адзіным прадстаўніком Беларусі ў фінале.



У вырашальным раўндзе Караткевіч за 100 хвілін правільна рашыў чатыры задачы з шасці і фінішаваў усяго з 66 штрафнымі хвілінамі.

Другім завяршыў спаборніцтвы Хасака Кацухіра з Японіі (Такійскі ўніверсітэт), які таксама рашыў чатыры задачы, але з 90 штрафнымі хвілінамі, а трэцім — Ван Кіншы з кітайскага ўніверсітэта Ціньхуа з чатырма дакладна рэшанымі задачамі і 125 хвілінамі штрафу. Чэмпіён «Алгарытму» атрымаў грашовы прыз: 300 тысяч расійскіх рублёў. (Гэта каля 90 мільёнаў беларускімі.)

Караткевіч ужо другі раз запар перамагае ў гэтых спаборніцтвах.

**In memoriam**

## Памёр кінарэжысёр Уладзімір Дашук

У ноч на 30 ліпеня пайшоў з жыцця кінарэжысёр Уладзімір Дашук (сын Віктара Дашука). Не вытрымала сэрца.

Аднакурснік Уладзімера Дашука Сяргей Дубавец згадвае на радыё «Свабода»:

«Мне ягонае аблічча прыходзіць на розум кожны раз, калі ўдумваюся ў слова «дзяцюк». Вось да такіх і звяртаўся ў сваіх праклямацыях Каліноўскі.

Валодзя Дашук быў такі марудналаваты ў рухах, разважлівы маладзён, унутрана заўсёды гатовы да мабілізацыі. Такім ён быў у студэнцкія гады, такім я яго пабачыў на пачатку лета, такім ён застаўся назаўсёды».

Да 1995 года Уладзімір Дашук зняў восем фільмаў, а пасля гэтага ўзяў доўгую паўзу. Аж пакуль не вярнуўся ў кіно ў



2009-м з фільмам «Наркотык» («Жарсць»), у якім камісія з Міністэрства культуры спачатку разгледзела парнаграфію, а пасля дала ўзнагароду за найлепшую рэжысёрскую працу года.

## 80-гадовая жанчына з Валожынскага раёна напісала свой першы верш

Гертруда Антонаўна Раман нарадзілася і ўсё жыццё пражыла ў вёсцы Камень Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Цяпер яна інвалід 1-й групы, вельмі пажылы чалавек — яснага розуму і вялікай жыццёвай мудрасці.

Сёлета ей споўнілася 80 гадоў. Усё свае жыццё Гертруда Антонаўна адпрацавала ў мясцовым калгасе.

Выгадавалі разам з мужам дваіх дзяцей. На зіму яе забірае у Мінск дачка, а лета яна бавіць у роднай вёсцы.

З акна яе хаты на ўскрайку вёскі якраз і відаць тыя самыя бярозкі, канава, дзе вясной бяжыць ручай, зусім побач шуміць лес і раскінулася поле. Родныя мясціны, краявіды, якіх ёй так бракуе ў горадзе… Мабыць, усё гэта і натхніла яе на гэты верш.

На пытанне, чаму не пісала вершы раней, адказвае проста — не было калі.

Мой родны куток, цябе так люблю я,
Ля хлева грудок мне сэрца мілуе.
Тут птушкі спяваюць званчэй,
Тут кветкі красуюць ярчэй.
Бярозкі-красуні шапочуць лістамі,
Вунь тыя, ля хаты, што выраслі самі.
За рэчкай-канавай ручай б'е з крыніцы.
Там, у барках, ужо спеюць суніцы.
Вось птушка запела, салоўка завецца,
А песні спявае — аж шчыміць за сэрца.
Паветра якое, не перадаць вам,
І верасам пахне, і сенажаццю.
Дзе так бывае, вы мне раскажыце:
Вунь чмыхае вожык,
схаваўшыся ў жыце.
А скора паспеюць ажыны, брусніцы,
Адпачыць прыязджайце,
не трэба і Ніцы!
У лес не хаджу я — не маю ўжо сілы,
Але сцежкі ўсе помню, я вам не схлусіла.

**Ад рэдактара.** Дасылайце і Вы вершы, не адно свае, але і старэйшых і малодшых сваякоў.



### У Нью-Ёрку фотавыстава, прысвечаная Беларусі

3 жніўня ў Грамадскай зале сабора Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адкрылася фотавыстава, прысвечаная Беларусі. Аўтар здымкаў — Джон Кунстадтэр, былы супрацоўнік амбасады ЗША ў Мінску, які цудоўна валодае беларускай мовай, — пасля адстаўкі з дыпламатычнай службы прысвяціў сябе фатаграфіі. Героі ягоных твораў — беларускія сяляне падчас іх штодзённай працы, вернікі падчас храмавых і каляндарных святаў, людзі сталага веку і дзеці, а таксама прырода Беларусі, яе архітэктура.

**Маруся і дочкі. Цераблічы, Столінскі раён.**

### Караткевіча, але не таго

Чаму ў «НН» напісалі, што ў Мінску няма вуліцы Уладзіміра Караткевіча? Такая ж ёсць — каля старога аэрапорта.

**Іван Рачко, Мінск**

Вуліца Караткевіча ёсць. Але гэта вуліца не імя пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, а вуліца Дзмітрыя Караткевіча, героя-падпольшчыка, які загінуў у 39 гадоў у 1943-м.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Беларуская спёка б’е рэкорды стагоддзя. Такой высокай тэмпературы не было аж 78 гадоў. Слупок тэрмометра падняўся да +36 градусаў. Мінчукі ратуюцца ад сонца ў фантанах. Праўда, ужо на гэтым тыдні сіноптыкі абяцаюць доўгачаканую прахалоду. Усяго толькі +27.



Спёка не толькі ў Беларусі, але і ў Каліфорніі. У гэтым штаце зараз бушуюць чатырнаццаць лясных пажараў. Праз рэкордныя засуху і спёку патушыць вогнішчы ніяк не ўдаецца. Агульная плошча ўзгарання складае 140 квадратных кіламетраў. Губернатар Каліфорніі Джэры Браўн абвесціў на тэрыторыі штата надзвычайнае становішча.



Пяць тысяч чалавек сабраліся выходнымі на хутары Шаблі ў Валожынскім раёне на фестываль «Дружба».



Такі знак адрознення быў калісьці ў дэсантнікаў з Віцебска.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Змірыся, грэшнік, — кажа айцец Нікадзім, калі абганяе кагосьці на сваім джыпе.

* * *

— Міхась, як гэта ты ў лякарню трапіў?

— Разумееш, іду я па вуліцы, бачу натоўп мужыкоў са сцягамі — абдымаюцца, цалуюцца... Я пытаюся: гэта што, гей-парад? Аказалася, Дзень дэсантніка...

* * *

Дзень дэсантніка не адбыўся. Дэсантнікі не здолелі адбіць фантаны ў жыхароў сталіцы.

* * *

Вовачка:

— Я заўсёды казаў, што сярод беларусаў сустракаюцца п’яніцы, злодзеі і гультаі. А сярод габрэяў сустракаюцца чэсныя. І чаму мяне лічаць антысемітам?

* * *

Вось выйду на пенсію — буду кожны панядзелак выходзіць на вуліцу а сёмай раніцы ды глядзець, як людзі ідуць на працу.

* * *

Калі не зашпільваць тры верхнія гузікі на блузцы, то вочы можна не фарбаваць.

* * *

Каб ўвесці санкцыі супраць «Сбербанка», краінам Еўразаюза прыйшлося адстаяць двухгадзінную чаргу.

***

Назбіраў грыбоў. Прыехаў дадому, пасмажыў. На ўсялякі выпадак памыўся, пагаліўся, надзеў усё чыстае... Сяджу, ем.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вайна вытварыла новыя способы ашуканства.** Паявіліся людзі, каторыя распускаюць фальшывыя чуткі дзеля сваёй карысці. Гэтак у Віленскім павеце сумысля распускаюць чуткі, што ў скорым часе правіцельства пачне забіраць адсюды скаціну. З прычыны гэтых чутак сяляне і нават памешчыкі пачалі прыводзіць на мясцовыя рынкі многа скаціны. Само сабой, што цэны на скаціну палі, і гандляры за карову, вартую 90—100 рублёў, плацілі не болей за 40—50.

**«НН». №31. 1904.**

**Машэрава супраць Лукашэнкі.** Наталля Машэрава лічыць, што толькі прэзідэнцкія выбары 2006 могуць змяніць сітуацыю ў краіне. Дачка БССРаўскага лідара таксама расчараваная ў цяперашнім кіраўніку. Без яго справы ў Беларусі ішлі б лепей, мяркуе яна. У гэтай сваёй пазіцыі Машэрава адбівае настроі сярэдняга слою грамадства, які па-ранейшаму не прымае Лукашэнкі, нягледзячы на рост дабрабыту і новую рыторыку.

**«НН». №29. 2004.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.08.2014.
Замова №3319.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14029